



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

13 лютага 2015 года №7 **(1033)**




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Арудуюць дзве маладыя махляркі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дзве маладыя жанчыны, невысокія, гадоў 20-25, заходзяць у кватэру і прадстаўляюцца супрацоўніцамі газавай службы. Адна з іх праходзіць на кухню, а другая застаецца ў калідоры, распавёў старшы следчы Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. Пасля яны сыходзяць, а ў гаспадароў знікаюць грошы. Ахвярамі махляркі абіраюць пажылых жанчын. Ад іх пацярпелі ўжо трое. Два выпадкі здарыліся 23 студзеня на вуліцы Ясінскага і Вялікім Гасцінцы. У кожнай з жанчын скралі па пяць мільёнаў. Яшчэ адзін – 6 лютага на Маркава. Скралі восем мільёнаў.

### 46 арганізацый рэгіёна вінаватыя работнікам грошы

Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі апублікаваў спіс арганізацый, якія сёлета на 1 лютага маюць запазычанасці па выплаце заробкаў работнікам. У рэгіёне, які ахоплівае газета, такіх прадпрыемстваў 46. Сярод іх 9 знаходзяцца на Вілейшчыне, 8 – на Мядзельшчыне, 15 – на Маладзечаншчыне, 14 – на Валожыншчыне. У пералік пераважна ўвайшлі сельгаспрадпрыемствы. Агулам па краіне прадпрыемстваў-даўжнікоў 277. Работнікаў, якія не атрымалі свае грошы, – больш за 49 тысяч.

### Конкурс: стварыце эскіз паркоўак

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы жыхарам прапануюць стварыць эскіз паркоўак для ровараў і прадумаць, дзе іх размясціць, распавяла старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**. Чакаюць і прапаноў, дзе зрабіць ровартныя дарожкі. Пераможцаў узнагародзяць. Па іх эскізах створаць паркоўкі для ровараў. Эскізы дасылайце да 10 сакавіка на пошту zovik2012@mail.ru. Тэлефон для даведак 8-044-5559011.

**Аддзел інфармацыі.**



# За год колькасць беспрацоўных падвоілася

**МАЛАДЗЕЧНА. У Беларусі распрацоўваецца законапраект, які прадугледжвае падатак на дармаедства. Выплачваць яго будзе той, хто нідзе не працуе больш за паўгода.**

Каб не стаць дармаедамі, людзі падоўгу сядзяць у чарзе ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама.

Намесніца начальніка ўпраўлення па пытаннях занятасці **Таццяна Мучынская** кажа, што чэргі, сапраўды, паболелі заўважна. Калі яшчэ па стане на 1 лютага ў Маладзечанскім упраўленні па працы былў зарэгістраваны 541 непрацуючы, то 11 лютага гэта лічба складае 830 чалавек.

У параўнанні з лютым мінулага года лічба вырасла ўдвая. У лютым 2014 года зарэгістраваных беспрацоўных было 440 чалавек.

А вось вакансій на 9 лютага было 193. У асноўным патрабуюцца кваліфікаваныя спецыялісты: ветэрынарныя дактары, інжынеры, спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі.

– А партрэт беспрацоўнага, – працягвае Таццяна Мучынская, – сёння такі. Гэта мужчына, прыкладна 40 гадоў. Ён не мае кваліфікацыі, да гэтага некалькі год нідзе не працаваў. Вядома, што вакансій для яго вельмі мала. І сёння амаль усе такія вакансіі запатрабаваныя. Нават калі раней "Камунальнік" увесь час дасылаў нам вакансіі дворнікаў, прыбіральшчыц, то сёння і такіх няма.

**Згодна з заканадаўствам, той, хто стаіць на ўліку па беспрацоўі, можа атрымоўваць дапамогу ў памеры ад адной да двух базавых велічынь цягам паўгода. Сёння гэта ад 180 да 360 тысяч рублёў.**

Цяпер ідзе гаворка пра тое, каб скараціць тэрмін максімальнага часу ўліку грамадзян у якасці беспрацоўных з 36 да 12 месяцаў.



Фота Наталлі ТУР.

**У калідорах упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама штодзень шматлюдна.**

### Было б жаданне, а на спецыяльнасці мы вывучым

Начальнік аддзела занятасці і рынку працы **Галіна Пашчук** расказала "Рэгіянальнай газеце", што ва ўпраўленні па працы могуць навучыць такім спецыяльнасцям, як вадзіцель пагрузчыка, машыніст-качагар, прадавец, маляр-тынкоўшчык, электрагазазваршчык.

– Але не ўсе гэтыя прафесіі цяпер уваходзяць у лік вакансій, якія прапаноўваюцца нашым беспрацоўным.

Нават работнікаў у новы вялікі гандлёвы цэнтр, што цяпер будуецца ў Маладзечне, набіраюць, не звяртаючыся ва ўпраўленне па працы.

– Адбываецца гэта таму, што працадаўцы не заўсёды задаволеныя тымі работнікамі, якімі можам забяспечыць іх мы, – кажа Галіна Пашчук.

**– Якія жаночыя прафесіі цяпер запатрабаваныя на рынку працы?**

– Выхавальнікі, памочнікі выхавальнікаў, але і гэтых вакансій цяпер не так многа, як раней. Прыходзяць да нас цяпер і гаспадыні, якія падоўгу нідзе не працавалі, займаліся гаспадаркай, а цяпер, каб не быць дармаедамі, вымушаныя станавіцца на ўлік, шукаць працу.

**– Ці звяртаюцца да вас людзі, якіх на працы скарацілі?**

– Звяртаюцца, але іх не стала болей, чым у мінулым годзе. Да нас прыходзяць людзі, якія звольніліся па сваім жаданні або па дамоўленасці бакоў.

### Доктар гатовы плаціць два мільёны, трактарысту – шэсць

Прааналізаваўшы спіс вакансій, які размешчаны ва ўпраўленні занятасці, можна сказаць, што самы малы заробак, які прапаноўваюць сёння, – гэта прыкладна два мільёны рублёў.

За два мільёны ў месяц прапануюць уладкавацца прадаўцом, поварам у дзіцячы садок, інжынерам па ахове працы, бухгалтарам і доктарам-спецыялістам у цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Самы высокі заробак сёння на рынку вакансій – 6 мільёнаў 141 тысяча рублёў. Такі заробак прапаноўвае прадпрыемства "Дуброва-2013" за працу трактарыста. Акрамя таго, высокія заробкі ў галоўнага энергетыка (6 мільёнаў рублёў) і галоўнага бухгалтара на станказаводзе (5 480 000 рублёў).

**Наталля ТУР.**

### Для дармаедаў у Беларусі могуць увесці збор – 3 мільёны 600 тысяч

Пра гэта новаўвядзенне, якое прадугледжанае ў праекце дэкрэта аб стымуляванні занятасці насельніцтва, напісаў сайт БелТА у пачатку студзеня. У Беларусі могуць увесці аднаразовы збор для працаздольных грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Гэта прадугледжана праектам дэкрэта аб стымуляванні занятасці насельніцтва. 13 студзеня яго разглядалі на нарадзе ў кіраўніка дзяржавы. Як інфармуе БЕЛТА, працаздольныя грамадзяне, якія больш за паўгода не плацілі падаткі, будуць абавязаныя раз у год плаціць збор у памеры 20 базавых велічынь (3 мільёны 600 тысяч рублёў). За ўхіленне ад выплаты або за няпоўную аплату прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. Некаторыя катэгорыі грамадзян (непрацаздольных ці тых, хто выхоўвае дзяцей) ад аплаты вызваляць.

ГРАМАДСТВА

# Беспрацоўныя не хочуць ісці ў сельскую гаспадарку

**Большасць спецыялістаў патрэбныя ў сельскай гаспадарцы. Людзям прапануюць там жыллё. Аднак многія адмаўляюцца ад такой працы.**

**АСТРАВЕЦ.** У Астравецкім раёне патрабуюцца прадавачкі, страхавыя агенты, кіроўцы, бухгалтары, фельчары-лабаранты, інжынеры-энергетыкі, трактарысты, мантажнікі будаўнічых канструкцый.

Заробкі прапануюць ад двух да чатырох мільёнаў рублёў.

Пра гэта паведаміла **Лілія Янкойц**, галоўны спецыяліст упраўлення па працы і занятасці Астравецкага райвыканкама.

**АШМЯНЫ.** Як адзначае намесніца начальніка аддзела па працы і занятасці Ашмянскага райвыканкама **Валянціна Суравец**, вакансій у Ашмянах і раёне вялікая колькасць, аднак большасць у сельскай гаспадарцы. Некаторыя спецыяльнасці, напрыклад, заатэхніка, ветэрынара, трактарыста, патрабуюць адукацыі.

– Праблема ў тым, што ў вёску ніхто ехаць не хоча. Таксама людзі не маюць спецыяльнай адукацыі. У нас усе хочуць грузіць, вартаваць, прыбіраць, але пажадана, каб у памяшканні, каб у цяпле. Таксама хочуць быць вахцёрамі, гардэробшчыкамі.

**ВАЛОЖЫН.** Як адзначыла начальнік аддзела занятасці **Лілія Пунтус**, пераважна патрабуюцца спецыялісты ў сельскую гаспадарку, а вось вакансій працоўных спецыяльнасцяў вельмі мала.

Заробак у сярэднім прапануюць тры мільёны рублёў – тры мільёны 200 тысяч.

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы прапануюць вакансіі акумулятаршчыка, кіроўцы спецаўтатранспарту, начальніка аддзела планавання і ўліку. Заробак па гэтых спецыяльнасцях чатыры мільёны рублёў.

Самы высокі заробак у чатыры з паловай мільёны рублёў абяцаюць электраманцёру. На адзін з заводаў патрэбны інжынер-хімік. Заробак ад трох мільёнаў рублёў.

Ёсць месцы педагога-псіхолага і ветэрынарнага доктара. Заробак – два мільёны рублёў.

– Таксама ў гаспадаркі патрэбныя галоўныя спецыялісты, даяркі, жывёлагадоўцы, – адзначае галоўны спецыяліст аддзела занятасці Вілейскага райвыканкама **Тамара Паслед**. – У трох гаспадарках спецыялістам даюць жыллё.

Яна адзначае, што многія людзі стаяць на ўліку па спецыяльнасцях газазваршчыка, грузчыка, аднак пакуль такіх вакансій няма.

Таксама Тамара Паслед заўважае, што не хапае рабочых месцаў, каб усіх забяспечыць працай. Магчыма, вясной з’явяцца вакансіі будаўнікоў, трактарыстаў.

**СМАРГОНЬ.** У Смаргонскім раёне ёсць вакансіі электрагазазваршчыка, кіроўцы, тэхнолага, тэхніка-лабаранта, трактарыста, эканаміста, слесара. Патрабуецца старшы навуковы супрацоўнік у музей-сядзібу Міхала Агінскага. Заробак – ад трох мільёнаў рублёў і вышэй.

16 чалавек накіравалі на вучобу па спецыяльнасцях электрагазазваршчыка і вальшчыка лесу.

Пра гэта расказала **Тамара Рамановіч**, начальнік аддзела дзяржаўнай службы занятасці ўпраўлення па працы Смаргонскага райвыканкама.

**Галіна СІНІЦА.**

| Раён | Колькасць беспрацоўных на студзень 2015 года | Колькасць беспрацоўных на студзень 2014 года | Колькасць вакансій на канец студзеня 2015 года | Колькасць вакансій на канец студзеня 2014 года |
|---|---|---|---|---|
| Астравецкі | 40 | 27 | 20 | 37 |
| Ашмянскі | 100 | 52 | каля 100 | каля 52 |
| Валожынскі | 29 | 17 | 69 | 178 |
| Вілейскі | 73 | 55 | 45 | 96 |
| Смаргонскі | 126 | 97 | 226 | 210 |
| Маладзечанскі | 830 | 440 | 193 | 232 |
| Мядзельскі | 72 | 56 | 79 | 99 |



ДА 20-ГОДДЗЯ “РГ”

## Рыгор Сарока пра “Рэгіянальную газету”

**Сёлета калектыў “Рэгіянальнай газеты” рады падзяліцца з вамі, шаноўныя чытачы, вельмі радаснай і важнай для нас падзеяй – 20-годдзем.**

Першы нумар “РГ” выйшаў 28 красавіка 1995 года. За гэты час на старонках газеты мы распавядалі пра поспехі многіх вядомых жыхароў з нашага рэгіёна. Кожная сустрэча з імі можа чамусьці навучыць ці натхніць на ўласныя перамогі. Спецыяльна да юбілейнай даты мы пачынаем новую рубрыку, у якой запрашаем заслужаных людзей сказаць слова пра “Рэгіянальную газету”.

Сённяшні госць – заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кавалер ордэна Францішка Скарыны, дырэктар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, дырыжор сімфанічнага аркестра каледжа, Ганаровы грамадзянін Маладзечаншчыны **Рыгор Сарока**:

– Любая газета, любое слова маюць вялікае значэнне для чалавека. Таму што слова можа як дапамагчы зарыентавацца, даць ацэнку тым ці іншым падзеям, так і завесці не ў той бок.

Творчы калектыў “Рэгіянальнай газеты”, які выжывае не ў самых простых умовах, за гады працы меў смеласць задаваць пытанні і крытыкаваць мясцовыя ўлады, і з нечым не пагаджацца, але заўсёды аб’ектыўна.

Пры гэтым газета займае стваральную пазіцыю. Яна распавядае пра людзей, мастацтва, жыццё нашага вялікага рэгіёна. Лічу, што яе існаванне вельмі патрэбнае.

Можна павіншаваць калектыў з тым, што ён мае такіх таленавітых, інтэлігентных, адукаваных, маладых журналістаў, якія ўмеюць кантактаваць з людзьмі.

Мы пастаянна падтрымліваем кантакт з “Рэгіянальнай газетай”. Мне асабіста і майму калектыву прыемна працаваць з гэтым выданнем. На старонках і мае выкладчыкі, і навучэнцы маюць магчымасць выказваць свае думкі, распавядаць пра тое, што іх цікавіць. Мае людзі даволі актыўна пішуць у “РГ”.

Хачу павіншаваць “Рэгіянальную газету” з гэтай цудоўнай датай!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПАМЯЦЬ

## Калегі гавораць пра маладога міліцыянера, які загінуў у аварыі

**ВІЛЕЙКА. У яго засталіся жонка, гадавалае дзіця і маці.**

Дзяніс Шульгач больш за два гады працаваў кіроўцам у дзяжурна-аператыўнай службе ў Вілейцы. Тут ён і жыў разам з сям’ёй.

– Ён быў сапраўдны, – гаворыць начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Шчыры, спагадлівы, добры. У ім не было ні граму фальшы, падробкі. Папросіш – дапаможа, зробіць. Выдатны чалавек. На развітанні з ім было шмат слёз. Мужчыны плакалі, я не кажу пра жанчын.

Развітацца прыйшоў амаль увесь аддзел.

Цяпер у калектыве абмяркоўваюць далейшую дапамогу сям’і.

Смерць 25-гадовага міліцыянера ўспрымаюць, як гераічны ўчынак. П’яны кіроўца, які ў яго ўехаў, збіраўся праз увесь горад на машыне вяртацца дамоў. І невядома, што яшчэ магло стацца яму перашкодай.

Аварыя, што забрала жыццё Дзяніса Шульгача, здарылася 3 лютага на скрыжаванні вуліц Піянерскай і 1 Мая ў Вілейцы.

Як распавёў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка**, 6 лютага пракуратура дазволіла ўзяць пад варту 22-гадовага кіроўцу “Кіа-Шума”, які ўрэзаўся ў аўто Дзяніса.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу.

**Настасся РОЎДА.**



**Фота Дзяніса Шульгача з вяселля. Размешчанае з дазволу блізкіх.**



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Малады рабочы загінуў падчас рамонту трактара

**СМАРГОНЬ. Няшчасны выпадак здарыўся на Смаргоншчыне.**

Загадчык механічнай майстэрні аднаго з сельгасвытворчых кааператываў раёна даручыў трактарысту і слесару адрамантаваць трактар МТЗ-82. Сам жа сышоў з мехмайстэрні.

Маладасведчаны трактарыст вырашыў не чакаць, пакуль слесар прыйдзе і ўсталюе страхавачныя апоры. Хлопец адкруціў крапежныя балты, і карзіна счаплення звалілася яму на галаву. 23-гадовы хлопец загінуў імгненна.

Следства ўзбудзіла крымінальную справу за парушэнне правілаў аховы працы, што пацягнула па неасцярожнасці смерць трактарыста. Падазраваным па справе прызналі загадчыка механічнай майстэрні СВК. Канчатковую прававую ацэнку дадуць пасля расследавання.

Пра выпадак, які адбыўся 19 снежня, распавёў афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці **Сяргей Шаршаневіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

СПАЖЫВЕЦ

# Набыць ці не набыць посуд за... 7 мільёнаў

## Як запрашэнне на кулінарнае шоу абярнулася даўгавой кабалой

**МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА. Жнівеньскім днём пенсіянерка Ала з Мядзела (імя зменена) пайшла на прэзентацыю кухоннага посуду. Вярнулася адтуль з каструляй і патэльняй. Але назваць яе шчаслівай уладальніцай язык не павернецца: посуд абышоўся ёй у сем мільёнаў 400 тысяч рублёў.**

– Калі прыйшла дадому і разгледзела пакупку – ахнула: звычайны посуд, а каштуе, як залаты. Як апомнілася, як стала біцца сэрца... Пайшла назад, а гандляроў ужо не было.



Фота hochu.ua.

У рэкламе абяцаюць, што дарагі посуд ператворыць прыгатаванне ежы ў радасць. Але калі паверыш рэкламным абяцанкам, можаш пазбавіцца некалькі пенсій ці заробкаў.

### "Абкруцілі хутка бабулю"

Пенсіянерка дагэтуль не можа зразумець, як рашылася на такую пакупку:

– Такія прафесіяналы, такія абыходлівыя маладыя людзі. Ды не адзін угаворваў, адразу некальк. Словам, абкруцілі хутка бабулю, я і купіла.

Сыграла ролю тое, што распісвалі, як карысна для здароўя гатаваць у гэтым посудзе, абяцалі скідкі. І для пакупкі "цуда-посуду" вялікіх грошай не патрабавалі. Плаці 350 тысяч рублёў, астатняе – у растэрміноўку. Вось і аддае пенсіянерка больш за 700 тысяч штомесяц. Будзе выплачваць яшчэ да чэрвеня.

Жанчына пісала на фірму ў Брэст, прасіла іх хаця частку сумы даравацъ. Адказу не атрымала.

### Што тлумачыць фірма

Затое адказ ад фірмы атрымала журналістка газеты "Народная Воля", куды пенсіянерка звярнулася са сваёй крыўдай.

– Гэта будзе эканамічным злачынствам, калі ў парушэнне цаны, устаноўленай прайс-лістом, мы паменшым кошт тавару, – растлумачыў дырэктар кампаніі **Андрэй Бельскі.** – Ужо выплачаныя падаткі, заробак людзям, якія рэалізавалі гэты тавар... Мы працуем па законе, нікога не прымушаем купляць наш тавар, нікога не гіпнатызуем, як, бывае, кажуць.

Дадаў ён, што пакупнік можа на працягу 14 дзён вярнуць посуд назад. Але, па-першае, ці ўсе пра гэта ведаюць? Вось і наша пенсіянерка даведалася пра гэта толькі пасля кансультацыі са знаёмым юрыстам. Аднак тады гэты тэрмін ужо мінуў.

Па-другое, адна справа адумаўшыся, назаўтра занесці тавар у краму ў суседні горад. Іншая – ехаць у далёкі Брэст, дзе месціцца офіс фірмы. Ды з посудам, ды пенсіянеру!

### "Гэта не "дорага" – гэта шалёная цана!"

Гераіня матэрыялу не можа расказаць пра вартасці ці недахопы посуду: яна ім карысталася толькі аднойчы. Тлумачыць, што пры гатаванні на ім наўрад ці здароўе зберажэ – хутчэй, наадварот, ад перажыванняў апошняе згубіць.

Таму на сайце otzovik.com пацікавімся водгукамі на посуд. Фірмы, што яе прадаюць, могуць мець розныя назвы. Людзі пішуць: "Гэтых фірмаў-прадаўцоў у Брэсце ўжо чатыры".

"Шалёная неапраўданая цана! Гэты посуд адназначна не варты такіх грошай! Нягледзячы на зручнасць, герметычнасць, тэрмаручку, якая вытрымлівае вялікі тэмпературны нагрэў, якасць прадукцыі пакідае жадаць лепшага. Яна павінна быць на вышэйшым узроўні за такія грошы.

Хтосьці скажа, навошта тады я яе набывала? Тут, на жаль, можна сказаць, паддалася псіхалагічнаму ўздзеянню, гучна заяўленай рэкламе".

Дзеліцца аўтар водгуку, як набывала посуд:

"Я не ішла на прэзентацыю, я пайшла на кулінарнае шоу з дэгустацыяй, але сказалі, што ўваход па пашпартах. Ніякага ўваходу па пашпартах там не было, а патрэбныя яны былі для таго, каб потым растэрміноўку афармляць".

Вядома, на гэтым і на іншых сайтах ёсць і станоўчыя водгукі пра гэты посуд: "Дорага, але якасна". Але на нясмелыя спробы абараніць гонар маркі, адразу знаходзіцца шмат адмоўных:

"Гэта не "дорага" – гэта шалёная цана!".

> **"Так распісвалі гэты посуд на прэзентацыі! Маўляў, вы эканоміце на здароўі, і таму цана проста касмічная. Сапраўды, эканомія. Купіўшы гэты метал – ты не купіш садавіны і гародніны, так як проста грошай на іх не хопіць".**

"Мне падабаецца патэльня, але шкадую, што набыла яе – такіх грошай яна не вартая. Яе цана мораз у дзесяць таннейшая павінна быць".

### Няма грошай – пазыч у суседа

Стаць уладальнікам дарагога посуду можна і без візіту на ўсялякія прэзентацыі. У Мядзеле, Вілейцы ходзяць па ўстановах і дамах людзі з камплектамі посуду. Легенда практычна адна і тая. "Мы – немясцовыя, нас дэпартуюць. Трэба посуд распрадаць. Аддаём танна". Найчасцей на эксклюзіўнасць тавару не прэтэндуюць і агучваюць цэны прыкладна такія, як на базары.

Аднак бывае па-іншаму. Пазалетась у Вілейцы хадзілі па прыватным сектары двое мужчын. Угаворвалі купіць камплект посуду. Кошт выставілі вялікі – 13 мільёнаў. Адну з пенсіянерак апрацоўвалі ці не паўгадзіны. На аргумент, што няма грошай, падказка знаходзілася умомант: "Пазыч у суседа". Калі ж справа не выгарала, кінулі на развітанне: "Бессардэчная вы".

### "Не пападайцеся на іх вуду"

У аўторак раздалося тэлефанаванне. Запрашалі на "прэзентацыю па здаровым харчаванні" ў Мядзеле. Праўда, фірма з посудам іншай маркі. Пазней – яшчэ званок, ад гераіні матэрыялу. На некалькі дзён раней Мядзел збіраюцца ашчаслівіць яшчэ адны ахвотныя зрабіць наша харчаванне здаровым: яе знаёмую запрасілі на прэзентацыю усё таго ж посуду.

Хадзіць на такія прэзентацыі ці не, купляць там штосьці – вырашаць вам. А пенсіянерка Ала для сябе ўсё вырашыла.

– Не пападайцеся на іх вуду, як я, – з вышыні сумнага досведу раіць яна. – А лепш зусім не хадзіце на гэтыя прэзентацыі. Посуду цяпер у крамах навалам.



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail: alvy@tut.by

З ДОСВЕДУ

### Як можна вярнуць посуд

"Вярнуўся з Брэста. Дагавор разарваў. Аванс вярнулі. Усё, што трэба ведаць тым, хто жадае вярнуць тавар, гэта тое, што вы маеце права зрабіць гэта на працягу 14 дзён з дня заключэння дагавора. Не варта зрываць этыкетак і карыстацца посудам, інакш будуць праблемы".

Паводле сайта otzovik.com





Інфаграфіка Натассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 5.02 | 12.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 420,00 | **15 330,00** |
| Еўра | 17 480,00 | **17 330,00** |
| Злоты | 4 181,58 | **232,00** |
| Расійскі рубель | 228,00 | **233,00** |
| Грыўня | 952,04 | **608,00** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.02** | | |
| Еўра | 17300/17680 | **17250/17600** |
| Долар ЗША | 15150/15550 | **15250/15600** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.02 | 11.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 138900 | **138900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 45800 | **45800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14200 | **14200** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5900 | **7500** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **5800** |
| Морква, 1 кг | 5800 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 5800 | **5800** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **26900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19500 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22900 | **24900** |
| Памідоры, 1 кг | 33900 | **34900** |
| Агуркі, 1 кг | 29900 | **33900** |
| Перац, 1 кг | 42900 | **39900** |
| Вінаград, 1 кг | 29900 | **29900** |
| Бананы, 1 кг | 23800 | **24900** |
| Хурма, 1 кг | 23500 | **24900** |
| Яблыкі, 1 кг | 9900 | **8900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24900 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **110000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

● ВЕДАЙ НАШЫХ

# Лепшая следчая вобласці: “Галоўнае – не адкладаць справы”

**МАЛАДЗЕЧНА. Іна Борыс, якая працуе ў Маладзечанскім аддзеле Следчага камітэта, другі год запар атрымала гэта званне. Маладзечанскі райаддзел таксама прызнаны лепшым у вобласці.**

Як раскрываць справы паспяхова, што можа расчуліць следчую да слёз і як пры паспяховай кар’еры адчуваць утульнасць дамашняга быту, распавяла яна для “РГ”.

Жанчына прызнаецца, што для перамогі выкладвацца трэба па поўнай праграме, нават не лічыцца з асабістым часам. Нагрузка немалая, бывае, і ў абед даводзіцца працаваць. Але лепшая следчая ўпэўнена, што калі рабочы дзень цалкам шчыра прысвячаць рабоце, правільна планаваць час, то можна паспяваць усё.

– Мы з напарніцай **Наталляй Макей** сядзім на так званым “вале” – на справах паскоранай вытворчасці, – распавядае Іна Борыс пра работу. – Справу могуць разглядаць паскорана толькі тады, калі абвінавачаны цалкам прызнае сваю віну. Калі звычайная справа разглядаецца два месяцы, то ў нас 10 дзён, за якія мы павінны паспець усё зрабіць.

Галоўнай складанасцю лічыць тое, як не проста знайсці падыход да тых, з кім працуе. Сярод падазраваных сустракаюцца пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, якія вядуць антыграмадскі лад жыцця, стаяць на прафілактычным уліку ў міліцыі ці ў псіханаркалагічным дыспансеры. Іх даводзіцца шукаць, яны не заўсёды своечасова з’яўляюцца, але следчы павінен паспяваць правесці неабходную работу.

Іна Борыс працуе ў аддзяленні па справах, якія не нясуць вялікую грамадскую пагрозу і менш цяжкія. Многія яе справы звязаныя з аліментамі, угонамі і іншымі злачынствамі.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Лепшай следчай па выніках работы ў 2014 годзе на Міншчыне стала Іна Борыс, якая 22 гады аддала пагонам.

### Упершыню плакала, калі ўручылі медаль

У конкурсе на званне лепшага следчага года ацэньваюць работу больш чым па 30 крытэрыях: колькасць накіраваных спраў у суд, накладанне арышту, колькі прынята скаргаў, іншых. Спачатку выбіраюць лепшага ў сваім аддзеле, а ў маладзечанскім каля 50 следчых. Пасля выбіраюць лепшага ў вобласці.

Узнагароджанне адбылося ў Мінску ў прысутнасці кіраўніцтва Следчага камітэта. Іне Борыс уручылі пасведчанне і вымпел.

– Гэта было вельмі ўрачыста, хвалююча і прыемна, – дзеліцца ўражаннямі следчая.

Іна Борыс двойчы атрымала званне лепшага следчага вобласці, а ў 2013 годзе атрымала медаль трэцяй ступені “За бездакорную службу”:

– Я была надзвычай гордая, калі яго ўручылі. Напэўна, упершыню ў жыцці плакала. Атрымаць такую ўзнагароду, асабліва жанчыне, вельмі натхняюча. Узнагароды – гэта найлепшы стымул апраўдваць іх і імкнуцца да новых перамог.

На погляд пераможцы, такога выніку можна дасягнуць, толькі калі самой старацца і калі работа ў структуры правільна пастаўленая.

### Маладзечанскі аддзел Следчага камітэта – лепшы ў вобласці

Маладзечанскі райаддзел Следчага камітэта таксама атрымаў перамогу – званне лепшага аддзела ў вобласці.

– Гэта заслуга ўсяго калектыву і асабліва кіраўніцтва. Я шчыра магу сказаць, што ганаруся работай і прыходжу на працу з задавальненнем. Цяпер створаныя ўсе ўмовы. Адэкватныя прафесійна падрыхтаваныя кіраўнікі, добры будынак, забяспечаныя камп’ютарамі, тэхнікай, канцтаварамі, паперай, а раней мы бегалі самі куплялі. Галоўнае, старацца і рабіць усё своечасова. Не трэба даваць сабе расслабляцца. Калі ў цябе ёсць работа – бярыся і адразу працуй. Бо аднойчы запусціўшы, складана раскласці ўсё па палічках, і лепшым дакладна не станеш.

Іна Борыс – самы старэйшы супрацоўнік Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта. Прыйшла працаваць у міліцыю ў 19 год, у 1993 годзе. Праз год атрымала званне лейтэнанта. Пасля ўтварэння Следчага камітэта перайшла працаваць у яго.

Здараецца, што дадому даводзіцца прыносіць у думках незакончаныя справы, але імкнецца, пераступіўшы парог, пераключацца на бытавыя клопаты.

### Сын марыць працягнуць дынастыю

Сын **Аляксей** і дачка **Лізавета** мараць пайсці па слядах мамы. Іна раіць дачцэ выбраць іншую сцежку. А вось памкненне сына цалкам падтрымлівае: яго дзед ваенны, мама следчая, бацька міліцыянер, таму будзе ганарыцца, калі Аляксей працягне дынастыю.

– У юнацтве, безумоўна, прыцягвае форма, – прыгадвае жанчына. – А калі трапляеш у гэту сістэму, яна паглынае цябе цалкам і іншай дарогі не бачыш і не хочаш. Я ніколі не шкадавала пра выбар прафесіі. Хачу і далей служыць і прыносіць Беларусі карысць.

Іна Борыс нарадзілася ў вёсцы Брылькі Валожынскага раёна. Лічыць, што вельмі многаму навучылі яе настаўніцы **Соф’я Канстанцінаўна Бабіч**, **Данута Аляксандраўна Русовіч**, **Ірына Фёдараўна Рудовіч**.

У вёсцы цяпер жыве яе мама **Лілія Полхава**, якая 42 гады працавала загадчыцай фельчарска-акушэрскага пункта, абслугоўвала 18 вёсак. Дачка лічыць, што толькі дзякуючы мамінай падтрымцы і выхаванню змагла дасягнуць у жыцці таго, пра што марыла.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by



Фота ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

На месцы здарэння ў вёсцы Альхоўка.

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Сутыкнуліся ў лоб

**АСТРАВЕЦ. Здарэнне адбылося ў вёсцы Альхоўка ў нядзелю каля пяці гадзін вечара.**

Мясцовы жыхар на “Аўдзі-80” спрабаваў павярнуць налева. Ён выехаў на сустрэчную паласу, убачыў наперадзе “Фольксваген-Шаран” і стаў вяртацца назад.

Такіх паводзінаў кіроўца “Фольксвагена”, жыхар Вільні, які ехаў насустрач, не зразумеў. Лабавога сутыкнення пазбегнуць не ўдалося.

Пацярпеў кіроўца і пасажыр “Аўдзі”. Яны абодва не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. Жыхар Вільні не пацярпеў.

**Па інфармацыі ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## У ДТЗ загінуў вясковец

**ВІЛЕЙКА.** Дарожна-транспартнае здарэнне са смяротным зыходам адбылося 5 лютага ў сем гадзін вечара ў Ілы.

39-гадовы жыхар Крывічоў Мядзельскага раёна на аўтамабілі “Мерседэс” наехаў на 51-гадовага жыхара вёскі Заазер’е, які знаходзіўся на праезнай частцы.

Вясковец загінуў. Ён не быў пазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

**Паводле МУС Беларусі.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Цягнуў адміністратара гульнявога клуба за валасы, а касіра – за адзенне

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 5 лютага каля трох гадзін ночы ў гульнявым клубе “ГеймсСтарс”, што на Цэнтральнай плошчы.**

Пра здарэнне расказвае старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**:

– 27-гадовы мужчына прыйшоў у гульнявы клуб ужо нецвярозы. Некаторы час гуляў у аўтаматы. Выйшаў у прыбіральню. Па непацверджаных дадзеных, там яшчэ выпіў, таму што ў залу прыйшоў зусім неадэкватны.

Адміністратар, 22-гадовая дзяўчына, папрасіла яго пакінуць клуб. За што мужчына паваліў яе на падлогу.

Касірка прыйшла на дапамогу калезе, але і яе ён таксама паваліў на падлогу. Адміністратара схапіў за валасы, касіра за адзенне і цягнуў абедзвюх у прыбіральню.

Касіру ўдалося вырвацца і націснуць трывожную кнопку. Ахова прыехала хутка.

Нападнікам аказаўся раней неаднойчы судзімы жыхар горада Валожына. Раней яго судзілі за крадзеж, угон і гвалтаванне.

Зламыснік затрыманы. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа.

**Наталля ТУР.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Ананімныя алкаголікі: мы ратуемся ад багны

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. "Як гэта працуе, я не ведаю, але гэта проста цуд, таму што я цвярозы!" – гавораць прысутныя на сходзе.**

"Рэгіянальная газета" ўжо некалькі год запар распавядае пра поспехі маладзечанскай суполкі АА. Сёлета на сходзе карэспандэнт "РГ" заўважыла, што пабольшала ўдзельнікаў да 30 год, прыйшлі два чалавекі з наркатычнай залежнасцю, чацвёра з дзесяці прысутных – жанчыны.

На сход групы падтрымкі ананімных алкаголікаў (АА) прыходзяць мужчыны і жанчыны, якія зразумелі, што залежнасць ад алкаголю робіць іх жыццё жахлівым, а самі яны не ў сілах справіцца з праблемай. Яны збіраюцца разам, каб распавесці пра перажытае, пераадоленае, поспехі і клопаты. Дзякуючы групе некаторыя ўдзельнікі змаглі ўжо некалькі год трымацца цвярозасці. Каб натхніць тых алкаголікаў, якія пакутуюць на хваробу, яны распавядаюць свае гісторыі.



Ісці па жыцці, не разбураючы яго спіртнымі напоямі, вучацца ў групе падтрымкі ананімных алкаголікаў.

### Света

Алкаголь быў заўсёды ў маім жыцці. Потым пачаліся запоі, вельмі цяжкія выхады. Трапіла ў рэанімацыю, рэабілітацыйны цэнтр. Там і даведалася пра групу АА. Год таму прыйшла ў групу ўпершыню. За гэты час быў адзін, але вельмі цяжкі зрыў. Чым даўжэй у цвярозасці, тым больш цяжкі зрыў.

За час цвярозасці маё жыццё перавярнулася, нават думкі сталі іншыя. Цяпер алкаголь не хвалюе мяне зусім. Нават калі знаходжуся ў кампаніі, дзе п'юць.

За год дасягнула вельмі многага: наладзіла бізнес, купіла машыну і кватэру. Усё цяпер па-іншаму, таму што цвярозасць – гэта іншы свет.

### Косця

У групу прыйшоў, толькі каб мог сам сабе шчыра сказаць, што паспрабаваў усё. Сказалі, што можа адбыцца цуд. Я не верыў, але лепш жа шкадаваць аб тым, што зрабіў, чым аб нязробленым.

Прыйшоў – і я афігеў. Я не разумею, як гэта працуе, ды мне і без розніцы. Галоўнае, што працуе. Залатая мара любога алкаголіка – кантраляваць ужыванне спіртнога. Цяпер я нічога не хачу, звязанага з алкаголем. Жартую, што я рэчыўны доказ гэтага цуда АА.

Некаторыя выздараўліваюць таму, што баяцца дна. А я люблю радавацца, сумаваць, перажываць усе пачуцці цвярозым.

### Сяргей

Спачатку алкаголь прыцягваў тым, што адчуваў сябе разняволеным, асабліва з дзяўчатамі. Пачаў зацягваць. Стварылася сям'я, пасля распалася. Ва ўсіх праблемах вінаваціў іншых. Пачаліся прагулы, праблемы са здароўем.

Прыйшоў сюды – і нешта здарылася. На сёння мая цвярозасць – два гады і сем месяцаў. Толькі дзякуючы групе. Стаў спакойным, ураўнаважаным, перастаў вінаваціць іншых. Першая чарка вядзе да запою, а цяпер мне гэта нецікава. Не хачу чакаць, калі закончыцца кадзіроўка. Хачу прачынацца кожную раніцу цвярозым, гэта будзе маёй работай на ўсё далейшае жыццё.

Узамен атрымаў многае – давер на рабоце, дзеці так класна да мяне ставяцца. Я стаў патрэбным. На сходзе АА я сустрэў сваю другую палавіну.

### Оля

Не хацела прызнаваць, што алкагалічка, цяжка было сказаць ўслых. Запоі ўсё часцей, пустыя абяцанні дзецям. Яны ўсё прасілі: "Мама, ну калі ты спынішся". Мне сказалі проста хадзіць – і атрымаю цуд. Ну, хадзіла. Потым падумала, ай, паклею лепш шпалеры дома. Мяне накрыла праз некалькі тыдняў. Прывяло ў шаленства, што мая другая палавіна не так наклеіла палоску. І я пайшла ў запой, выхад быў вельмі жорсткі. Зразумела, што мне без розніцы, з кім піць, дзе спаць, абы выпіць.

Я вярнулася і пачала выконваць праграму выздараўлення. Што за яна, чаму дапамагае? Нас трымае патрэбнасць адзін у адным. Знайшла тут Сяргея, месяц таму распісаліся.

### Коля

Клаўся спаць з бутэлькай пад падушкай. Паставіў крыж на сабе. Жыць не хацелася. Пасля "Навінак" прыйшоў сюды. Год і пяць месяцаў цвярозы.

### Наташа

Бацькі здзіўляліся, што ў 25 год ужо пабыла ў "Навінках". Даказвала, што я ж хворы чалавек, адчапіцеся. Пасля апошняга запою прыпаўзла дамоў, а раніцай – у нарканалогію. Папрасілася ў рэабілітацыю, бо край. Тата адвёз. Пасля прыйшла ў групу. Спачатку ленавалася хадзіць – і праз тыдзень у санях. Вырашыла шчыра працаваць над праграмай выздараўлення.

Як і абяцалі, пачаліся цуды. Такіх падарункаў лёсу я не мела ніколі. Раней, як толькі не так паглядзелі на рабоце, – крыўда, трэба пайсці вярнуць раўнавагу чаркай.

Цяпер спакойная. Нават бацькі заўважылі, як змянілася за паўгода, мама нават слязу можа пусціць.

### Дзіма

Мне было важна, што група нерэлігійная, некамерцыйная, ёй ад мяне нічога не трэба. Мая залежнасць – наркотыкі, алкаголь. Восем год актыўная залежнасць, апошнія гады прымаў штодзень. Пераважна цяжкія наркотыкі. Дактары мне не маглі дапамагчы. Я не мог спыніцца, хаця вельмі хацеў завязаць. Не разумеў, чаму так адбываецца.

Я сыходзіў ад рэальнасці, так было прасцей, менш страху. Усё маё жыццё гаварыць, што, колькі б ні быў цвярозы, дастаткова аднойчы згубіць кантроль, каб вярнуцца да залежнасці. Таму я тут.

### Чэх

Сваю цыстэрну я выпіў, было тры кадзіроўкі, падшыўка, "Навінкі". Нічога мне не дапамагала. На групе тры гады і пяць месяцаў.

Я п'ю, таму што алкаголік, ніхто не мог гэта спыніць. Толькі тут я знайшоў шлях, які дапамагае быць цвярозым. Хто што хоча, тое група і дае – ці здароўе, ці вярнуць правы, ці бізнес, ці адносіны! Я хацеў атрымаць свабоду, і цяпер свабодны.

### Валодзя

Два месяцы хаджу сюды і не п'ю. Знайшоў работу.

### Лена

Больш за год хаджу. Такі самападман, думала, што ў любы момант спынюся. Блізкія аб'ядналіся і памаглі. Не верылі, што гэта адбываецца са мной: піла штодзень.

Калі выходзіла замуж, малявала нейкую ідэальную карцінку жыцця. Праз 20 год сутыкнулася з расчараваннем, крыўдамі. Нічога не магла іншага прыдумаць, акрамя як піць.

Спачатку ў групе я проста слухала. Бачыла чалавека, у якога 40 год цвярозасці, якому дапамаглі сходы. Тут знаходзіла адказы на канкрэтныя складаныя пытанні.

### Паспрабуйце на сабе

Удзельнікі АА адзначаюць, што ў кожнага алкаголіка сваё дно. Пакуль чалавек сам яго не ўбачыць і не захоча палепшыць жыццё, яму складана дапамагчы. У групе падтрымкі ніхто не прымушае расказваць пра праблемы. Кожны выказваецца, калі лічыць патрэбным. Усё сказанае – на ўмовах ананімнасці.

Калі ў вас ёсць праблема з алкаголем, паспрабуйце на сабе, ці спрацуе цуд АА.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Як трапіць на сход АА

Калі вы маеце праблемы з алкаголем, вам могуць дапамагчы ў групе ананімных алкаголікаў. У нашым рэгіёне яны збіраюцца ў Маладзечне і Вілейцы.

У Маладзечне сходы груп адбываюцца па аўторках, чацвяргах і пятніцах, пачатак а 19 гадзіне. Па нядзелях пачынаюць у 13:30. Збіраюцца АА *у прыбудове каля касцёла св. Казіміра* па Вялікім Гасцінцы.

У Вілейцы збіраюцца ў 18 гадзін па пятніцах у будынку аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва па адрасе: *вуліца Маркава, 49*.

Кожную апошнюю нядзелю месяца групы збіраюць адкрыты сход, на які могуць завітаць, напрыклад, блізкія алкаголікаў, сузалежныя.

Патрэбную інфармацыю можна ўдакладніць па тэлефонах: **(8033) 384-22-34, (8044) 492-45-30** ці праз электронную пошту: **zolotaya_gila@mail.ru.**

АДУКАЦЫЯ

## "Мова Нанова" стартавала ў Астраўцы

**АСТРАВЕЦ. Першыя заняткі бясплатных курсаў беларускай мовы прайшлі тут 4 лютага.**

Заняткі ідуць па серадах а 18-й гадзіне ў гімназіі №1, якая адкрылася 12 студзеня. Вядучыя – настаўніца беларускай мовы і літаратуры **Вольга Лябецкая** і журналістка **Алёна Ганулiч**.

На першыя заняткі прыйшло больш за 30 слухачоў з Астраўца і навакольных вёсак. Яны даведаліся пра беларускія формы сваіх імёнаў, патрэніраваліся ў чытанні скорагаворак, успомнілі беларускія назвы свавякоў.

У канцы чакаў музычны падарунак – выступленне саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі **Сержука Доўгушава**.

### Курсы ў Маладзечне пераехалі

Заняткі ў Маладзечне ідуць па аўторках а 18-й гадзіне. Вядучыя – карэспандэнткі "РГ" **Настасся Роўда** і **Наталля Тур**.

17 лютага – тэма "Сваякі".

На гэтай сустрэчы слухачы змогуць даведацца ад журналіста, паэта, даследчыка радзівілаўскіх фатаграфій і выкладчыка курсаў "Мова Нанова" ў Мінску **Глеба Лабадзенкі** пра гісторыю роду Радзівілаў.

Напрыканцы слухачоў чакае выступленне музычнага гурта "Мутнае вока".

Вядучыя курсаў звяртаюць увагу, што пачынаць наведваць заняткі можна ў любы час. Яны не звязаныя тэматычна адны з другімі.

Узрост таксама не мае значэння.

"Мова Нанова" – самыя масавыя ў свеце курсы беларускай мовы.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫСТАВЫ

## Можна пабачыць скульптурныя партрэты знакамітых землякоў

**СМАРГОНЬ. 6 лютага ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі запрацавала выстава "Майстэрства і натхненне".**

На ёй можна ўбачыць скульптурныя партрэты знакамітых землякоў: вядомага дырыжора **Віктара Роўды**, культурнага дзеяча **Аляксандра Дзяругі**, кампазітара **Аляксандра Шыдлоўскага** і іншых, а таксама творчыя працы **Аляксандра Жываева**.

Ёсць магчымасць пазнаёміцца з творамі маладых і таленавітых скульптараў, удзельнікаў пленэра, які праходзіў у Смаргоні ў 2013 годзе. Тады бралі ўдзел **Павел Лявонаў**, **Аляксей Сарокін**, **Паліна Пірагова**, **Іван Арціговіч**, **Ігар Засімовіч**, **Васіль Ціманаў**. Іх восем работ можна ўбачыць у выставачнай зале музея.

### Працы Церабуна

На выставе змешчаныя станковыя скульптуры **Уладзіміра Церабуна**. Агулам тут 19 прац: "Сымон-музыка", "На пабыўку", "Партызан", "Ева", "Флора і Фаўна" і іншыя. Таксама скульптурная кампазіцыя, прысвечаная Першай сусветнай.

"Скульптурны камбінат" Беларускага саюза мастакоў сабраў і размясціў работы беларускіх скульптараў у друкаваным выглядзе на ПВХ. Тут працы **Генадзя Буралкіна**, **Івана Міско**, **Льва** і **Сяргея Гумілеўскіх** і іншых. Дзякуючы намаганням спадара Уладзіміра гэтыя працы прадстаўленыя на выставе.

### Прэзентавалі новы альбом Церабуна

На адкрыцці выставы прэзентавалі альбом Уладзіміра Церабуна "На хвалях часу".

Аўтар падзяліўся з гасцямі цікавымі выпадкамі з жыцця, распавёў пра свае працы, а таксама няздзейсненыя праекты.

**Марына КІРАЎСКАЯ,**
**дырэктарка Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.**

АДПАЧЫНАК

## Губку Боба зляпілі са снегу

**ВІЛЕЙКА. У Вілейскім дзяржаўным каледжы 6 лютага арганізавалі фестываль снежных скульптур. Праходзіў ён у другі раз.**

Стваралі скульптуры на гарадскім стадыёне.

Рабілі ўдзельнікі снежныя скульптуры мультыплікацыйных персанажаў, танка, аўтамабіля.

Удзельнікаў каманд-пераможцаў запрасілі на вечар адпачынку.

**Аддзел інфармацыі.**

● ВЫСТАВЫ

# Мастак Анатоль Акулік: "Нас лічаць лайдакамі"

**МАЛАДЗЕЧНА. Мастак з Маладзечна арыентаваны ў сваёй творчасці на падрыхтаванага гледача. Здольнага паразважаць над творамі мастацтва, а не ацэньваць іх з пункту погляду цукерачкі.**



Фота Галіны СІНІЦЫ.

**Работы Анатоля Акуліка з трыпціха "Вартавы холаду" (злева) і "Смак мінулага" (справа).**

– Большасць жа гледачоў не могуць даць ацэнку нерэалістычным творам, яны не падрыхтаваныя да гэтага, – сцвярджае Анатоль Акулік. – І ацэньваюць як цукерачку: салодкая альбо несалодкая, смачная альбо нясмачная. Над творамі мастацтва трэба падумаць, убачыць у кожным з іх сэнс. Гэта каласальная праца творцы, яго энергетыка, душа, унутраны свет.

## Карціны – як пад кальку

Творца таксама заўважае, што ў краіне мала калекцыянераў, людзей, якія разумеюць мастацкія напрамкі, работы мастакоў.

– Для большасці верхам прыгажосці, верхам мастацтва з'яўляюцца карціны як пад кальку з магазінаў, – дзеліцца досведам маладзечанец. – Таму, калі людзі чуюць, колькі каштуюць мае работы, работы іншых мастакоў, у некаторых вочы на лоб вылазяць, чуюцца словы: "Ды я за такое б і 15 долараў не даў!", "Мой унук нават лепшыя карціны малюе!" А паспрабаваў бы чалавек сам зрабіць такое! Колькі цярпення, колькі сіл ідзе на кожную карціну. Таксама вялікія грошы – на якасную паперу, фарбы, туш, пэндзлі.

Творца параўноўвае стварэнне карціны з нараджэннем дзіцяці. Для яго кожная з работ вельмі дарагая, родная. Таму становіцца крыўдна, што тваю працу так нізка ацэньваюць.

## Зняў бы капялюш перад Маўрыцам Эшарам

Анатоль Акулік адзначае, што ніколі не імкнуўся быць падобным да пэўнага мастака:

– Мне блізкія некаторыя работы **Сандра Батычэлі**, **Міхаіла Урубеля**, **Канстанціна Каровіна.** Аднак гэта не азначае, што мае будуць падобныя да іх. Я ствараю па-іншаму.

А вось перад мастаком-графікам прадстаўніком імп-арта **Маўрыцам Эшарам** маладзечанскі мастак зняў бы капялюш – яго работы сапраўды ўражваюць. Мастак нават сумняваецца, што мог бы зрабіць падобнае.

## "Мона Ліза" не ўражвае

– А вось вядомая карціна "Мона Ліза" **Леанарда да Вінчы** ніколі не ўражвала мяне, колькі ні глядзеў, з якога боку ні ўзіраўся, – разважае маладзечанец. – Для мяне гэта звычайная жанчына на палатне.

Мастак заўважае, што любы твор мастацтва нельга ацэньваць па параметрах: падабаецца альбо не падабаецца, добра альбо дрэнна. Гэта не ацэнка! Іншая справа, калі людзі гавораць, што да гэтага твора не ляжыць душа альбо што не разумеюць яго.

## Рысаванне – праца для душы

Мастак падзяліўся спосабам, як працуе над карцінай. Калі ён бярэцца за працу, то спачатку можа і не ведаць, якая яна будзе – шматкаляровая альбо чорна-белая. Некаторыя мастак можа нарысаваць, але пасля, калі ўбачыць, што ідэя ў іх цалкам не рэалізаваная, выкіне. Некаторыя ідуць пад канапу.

Анатоль Акулік гаворыць, што некаторых мастакоў мастацтва можа пракарміць, аднак такое ўдаецца далёка не ўсім.

– У кожнага мастака ёсць асноўная работа, якая корміць, дае хлеб, – адзначае творца. – І ёсць работа для душы. Для мяне – гэта мастацтва. Так, напрыклад, **Міхаіл Клеафас Агінскі** ў першую чаргу быў дыпламатам, палітычным дзеячам, музыкантам ён займаўся на аматарскім узроўні. Аднак цяпер яго найперш ацэньваюць як кампазітара, які стварыў "Паланэз".

## Машына цікавіць толькі дызайнам

Анатоль Акулік адзначае, што многія людзі лічаць мастакоў лайдакамі.

– Гэта, напэўна, закладзена ў менталітэце нашай нацыі, – адзначае Анатоль Акулік. – Калі чалавек не цягае на сабе цэглу, калі не рамантуе пэўныя рэчы, а трымае ў руцэ пэндзаль і стварае творы мастацтва, значыць, ён лайдак. Так нават час ад часу выказваецца ў дачыненні да мяне і мая мама. Яна часта сварыцца, калі не раблю нешта па доме. Але я лічу, што для гэтага ёсць спецыялісты.

Мастак кажа, што ён не сябруе з механічнай тэхнікай, для яго гэта незразумелая і нецікавая сфера дзейнасці. Прызнаецца, што і машыны яго цікавяць выключна з пункту погляду дызайну.

**Выстава графікі "Рака жыцця" Анатоля Акуліка пачала працаваць ад 1 лютага ў мастацкай школе ў Маладзечне. Яна працягнецца да 20 лютага.**

Мастак доўгі час шукаў спосаб, як паказаць перапляценне ліній. Гэта ён увасобіў у карцінах "Ураборус" і "Уздзвіжанне".

У дзяцінстве ў мастака была кніга з казкамі братоў Грым, там былі цікавыя ілюстрацыі. Яны запомніліся на ўсё жыццё. Гэтыя вобразы Анатоль Акулік пераасэнсаваў, з'явіліся трыпціхі "Смак мінулага" і "Вартавы холаду".

Гледачы могуць таксама ўбачыць карціны "Вартавы холаду", "Белая варона", "Ранні снег", "Механіка космасу", "Усёбачнае вока".

Работу над творамі, якія ёсць на выставе, мастак пачаў з 2012 года. Раней работы не выстаўляліся.



Фота Галіны СІНІЦЫ.

**Анатоль Акулік, мастак з Маладзечна.**

**Даведка "РГ". Анатоль Акулік** жыве ў Маладзечне. Нарадзіўся 28 студзеня 1954 года ў горадзе Пячэнга Мурманскай вобласці. Працаваў на Клецкім механічным заводзе фрэзероўшчыкам. У 1977 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У выставах удзельнічае ад 1982 года. Творы захоўваюцца ў прыватных зборах Беларусі і замежжа.

**Імп-арт** – напрамак у мастацтве, накіраваны на выяўленне немагчымых фігур.



**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Фота Міхася КУЛЯША.

**Віляйчане Аляксей Варпер і Сцяпан Кравец падчас экскурсіі на фоне сядзібы Агінскіх у Залессі. Аляксей працуе ў будаўнічай фірме. Сцяпан працуе на Вілейскім хлебазаводзе, барабаншчык гурта "Чарнавар".**

● ВАНДРОЎКІ

# Вілейскія краязнаўцы зладзілі экскурсію па мясцінах Агінскага

**ВІЛЕЙКА. Яе прымеркавалі да 250-годдзя ад нараджэння Міхала Клеафаса, якое адзначаюць сёлета.**

Экскурсію арганізавалі выданне "Волат" і вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Падарожжа 7 лютага арганізавалі па маршруце Вілейка-Маладзечна-Беніца-Залессе-Крэва-Смаргонь-Вілейка. Аўтобус на 40 пасажыраў заказалі ў вілейскім аўтапарку.

На першым прыпынку ля помніка Міхалу Клеафасу Агінскаму ля музычнага каледжа ў Маладзечне пра сувязь знакамітага роду з горадам распавяла супрацоўніца Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Карэц**.

Каля Троіцкага касцёла 18 стагоддзя ў Беніцы выступіла **Тэрэза Канецкая**.

Па залескай сядзібе правяла экскурсію дырэктар музея пры ёй **Людміла Градзіцкая**. Наведнікам прапанавалі фільм рэжысёра **Анастасіі Мірашнічэнкі** "Рана ў сэрцы. Міхал Клеафас Агінскі". Удзельнікі пагулялі па ваколіцах, убачылі камень памяці **Тадэвуша Касцюшкі**, фатаграфаваліся.

Ад Таварыства аховы помнікаў і "Волата" перадалі музею-сядзібе некалькі вілейскіх плакатаў Міхала Агінскага, камплекты паштовак, нумары "Волата". Усё гэта зробленае вілейскімі краязнаўцамі.

У адказ ад Залесся віляйчане атрымалі кнігу-брашуру "Нашчадкі М. К. Агінскага" і "Залескі сакратар Леанард Ходзька".

Пра гісторыю Крэўскага замка распавёў паэт **Уладзімір Цануннін**.

Пасля ўдзельнікі праз Смаргонь вярнуліся ў Вілейку.

Як ацэньвае адзін з арганізатараў **Дзяніс Канецкі**, падобныя тур могуць зладзіць многія таварыствы, калектывы і проста неабыякавыя людзі, якія хацелі б больш даведацца пра сваю спадчыну і ўшанаваць спадчыну знакамітага земляка ў гонар юбілею.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КНІГІ

# Гісторык Ігар Мельнікаў прэзентуе кнігу "Заходнебеларуская Атлантыда"

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэцца з гісторыкам і набыць яго новую кнігу можна будзе ў суботу, 14 лютага, а 15 гадзіне. Прэзентацыя пройдзе па адрасе: вул. Чыстая, 26.**

Кніга кандыдата гістарычных навук **Ігара Мельнікава** пабачыла свет напрыканцы мінулага года. Прысвечаная яна гісторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны час.

У кнізе можна знайсці аналіз гісторыі Заходняй Беларусі ў складзе Другой Рэчы Паспалітай, а таксама біяграфіі асобных людзей, лёсы якіх звязаныя з падзеямі таго часу.

Ёсць у кнізе і раздзел, прысвечаны сталінскім рэпрэсіям супраць жыхароў Заходняй Беларусі і Беларускаму катынскаму спісу.

На прэзентацыі кожны ахвотны атрымае магчымасць задаць пытанне аўтару аб гісторыі нашага рэгіёна і пабачыць слайд-шоу з унікальных фотаздымкаў Заходняй Беларусі.

Аўтар ужо прэзентаваў сваю работу ў Мінску і Варшаве. Кніга выйшла невялікім тыражом у 200 асобнікаў, амаль усе з іх ужо раскупленыя. Апошнія экзэмпляры кнігі можна будзе набыць менавіта ў Маладзечне.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**




**Тэлефонныя коды**

гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100, 1987 г.в., 1,8 газ-бензін, добры стан, 2000 у.а., торг. Аўдзі А6, С5, 1998 г.в., 2,4 бензін, зялёны металік, літыя дыскі, акрамя скуры. Т. (8-029) 3362994.

• Аўдзі-80, 1987 г.в., 1,8 бензін, у добрым стане, сіні, 3300 у.а. Торг. (8-033) 6371121.

• Аўдзі-80, Б4, 1992 г.в., 2,0 бензін, бардовы, седан, у добрым стане, 3900 у.а.,Т. (8-029) 7086911, (8-029) 7662955.

• БМВ-525д, 2002 г.в., чорны акрыл, 210 тыс.км, у выдатным стане. Прадам у добрыя рукі. Т. (8-029) 6757239.*

• Додж-Караван, 2000 г.в., 2,4 бензін, мінівэн, 7 месцаў, цёмна-сіні металік, кандыцыянер, г/у, АКПП, 5600 у.а., торг. Т. (8-044) 7162786, (8-033) 6338087.

• Кія-Спортэйш, 2000 г.в., 2,0 тд, кенгуратнік, аэрбагі, 6000 у.а., торг. Маладзечна. Т. (8-029) 6629234.

• МАЗ-54323, 2000 г. в., ав., сядз. цягач, п/прычэп самазвальны; такарны станок для работы з металам; трансфарматар тока 400 кВт; МАЗ-504В, сядз. цягач, 1983 г.в.; п/прычэп бартавы. Цэны дагаворныя. Т. (8-01592) 96678, Вэлком 6075648.

• Мазда-323F, 2002 г.в., 2,0 ТДІ, серабрысты, не з РФ, добры стан; зімовыя шыны, тэрмінова, добры торг у аўто, 5450 у.а. Т. МТС (8-029) 5748095.

• Мерседэс-190, 1985 г.в., 2,0 бензін. Т. МТС (8-029) 5722940, Вэлком (8-029) 6466652.

• Опель-Аскона, 1986 г.в., 1,6 Б, на запчасткі. Маладзечна. Т. (8-029) 1169838.

• Опель-Вектра, 2006 г.в., 1,9 ТДІ, сіні, універсал. Т. (8-044) 7919847, (8-029) 5088142.*

• Пежо-306, 2001 г.в., 1,9 дызель. ФВ-Пола, 2003 г.в. бензін, чорны, 5 дзвярэй. Т. (8-029) 3020248.*

• Прычэп "Зубраня", страхоўка, тэхнічна спраўны, тэнт, 400 у.а., в. Ракуцёўшчына. Т. (8-029) 6990419.*

• Ровер-416, 1998 г.в., 1,6і, універсал, ц.з., эл. шкло, эл. люстэркі, АВС, 2 падушкі бяспекі, кандыцыянер, эл. люк, карэктар, фаркоп, тэрмінова, 30 000 000 руб. Т. (8-044) 7903405.*

• **РЭНО ТВИНГА**, 1998 г.в., чырвоны, добры стан. Т. (8-029) 9908888, (8-033) 3060888.

• ФВ-Шарарон, 2002 г.в., 2,0 газ-бензін, цёмна-сіні. Т. (8-029) 9962960.

• ФВ-Вента, 1994 г.в., 2,0 бензін. Т. МТС (8-033) 3719008.*

• ФВ-Пола, 2002 г.в., 1,2 бензін, 5 дзвярэй. Т. (8-029) 9689645.*

• Фіят-Уліс мінівэн, 1995 г.в., 2,0 Б, новая зімовая гума мішлен + летняя клебер. Новае счапленне, рычагі, 6 месяцаў назад зроблены капрамонт рухавіка. 5200 у.а., торг магчымы. Т. Вэлком (8-029) 3551007, МТС (8-029) 7584141.

• Фіят-Уліс, 2000 г.в., дызель, мінівэн, 7 месцаў, 6900 у.а. Т. Вэлком (8-044) 7669089, МТС (8-029) 7075427.

• Форд-Фіеста, 1992 г.в., 1,3 Б, поўнае ТА, 1400 у.а. Т. (8-029) 6194636.*

• Форд-Сіера, добры стан, нядорага. Т. (8-033) 6383847.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у да **НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗСКІХ** аўто. Гарантыя, г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДА РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭНАЎ. ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• Запчасткі б/у да Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у да Опель-Зафіры і Опель-Вектры, дызель, рухавік, навяснос, КПП, кузаўшчына, падвеска і шмат іншага. Т. (8-029) 2569668.*

• Запчасткі б/у да ФВ Пасат В5,1900ТДІ, рухавік, навяснос, КПП, кузаўшчына, падвеска і іншае. Т. ( 8-029) 5063202.*

• Запчасткі б/у да Фіят-Уліс, 2000, дызель, рухавік, навяснос, КПП, кузаўшчына, падвеска і іншае. Т. (8-029) 3425134.*

• **ЗАПЧАСТКІ** б/у **ДЛЯ ЎСІХ** марак аўто. г. Маладзечна, вул. Маладзёжная,10. ІП Еўдакіменка Д.І., УНП 191984027. Т. (8-029) 8787760, (8-029) 6392287*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТО, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль любога года выпуску, з любымі праблемамі. Дорага. Т. (8-044) 4625799*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

## ПАСЛУГІ

• Арэнда самазвалаў МАЗ, 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **ЭВАКУАЦЫЯ АЎТАСПЕЦТЭХНІКІ, ВЫЦЯГВАННЕ З КЮВЕТАЎ, ПЕРАВОЗКА ГРУЗАЎ, БУКСІРОЎКА. ГРУЗАПАДЫМАЛЬНАСЦЬ 2,3 Т, ДАЎЖЫНЯ ПЛАТФОРМЫ 5 М, ШЫРЫНЯ 1,95 М, АЎТАПОЎНАПРЫВАДНЫ, 4Х4. ІП ЦЯСЛЕНКА Н.Ю. УНП 600564375. т. (8-029) 6636538, (8-029) 2712477, (8-0176) 736538.***

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў в. Асіпавічы. Т. Вэлком (8-029) 3161660.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 38. Плошча 43 (17,10) 6. Санвузел сумесны. Цэнтр горада, тэлефон, ZALA, інтэрнэт. 30 тыс. у.а. Торг. Т. (8-029) 2567458.

• 3-пакаёвая кватэра 2009 г. у Макаўі ў Вілейцы. Т. (8-044) 7646116.*

• 3-пакаёвая кватэра ў п. Чысць. Т. (8-0176) 749303.

• Дом дачны 7х7, без унутраных работ, участак 15 сотак, хлеў, 900 м ад вадасховішча, в. Касута, 14000 у.а. Т. (8-029) 7612383.*

• Дом жылы драўляны пл. 54,5 кв.м. у в. Івонцавічы, прыгарадзе Вілейкі. Побач лес, вадасховішча. Т. (8-029) 8486406, (8-01771) 22416.

• Дом у а.г. Княгінін Мядзельскага р-на, 0,25 га, 0,5 км ад трасы Мінск-Нарач, ёсць чыгуначны вакзал. Т. МТС (8-033) 6643654.*

• Дом у Брыльках Валожынскага р-на. Т. (8-029) 1966779.*

• Дом у в. Заскавічы, гаспабудовы, лазня. Т. (8-029) 8682357.*

• Дом у в. Лебедзева, 32 кв.м, 15 сотак, усё прыватызаванае. Тэрмінова, торг. Т. Вэлком (8-029) 3463652.*

• Дом у в. Парадоўшчына. Т. Вэлком (8-029) 3161660.

• Дом у в. Талуць Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7508723.

• Дом у Вілейцы, 30 000 у.а. Т. (8-01771) 55693.

• Дом у добрым стане, усе камунікацыі, участак 25 сотак. Т. (8-029) 2710857.

• Частка дома ў цэнтры Вілейкі. Можна пад дачу. Т. (8-029) 8775320.*

## КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

• Участак у Вілейцы на Паўночным. Т. (8-029) 7036542.

• Участак, можна са старым домам у Маладзечне ці прыгарадзе. Т. (8-029) 7082574.

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 1-пакаёвую ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5527421, дамашні (8-01771) 24711.

• Палову дома ў Вілейцы на 1-пакаёвую кватэру з даплатай. Т. Вэлком (8-029) 1037240, (8-01771) 55160.

## ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру з мэбляй у Вілейцы. Т. Вэлком (8-029) 6297833, МТС (8-029) 7043616.

• Пакой у 3-пакаёвай кватэры. Цэнтр. Жыве адзін чалавек. Маладзечна. Т. (8-029) 2521348.*

• У арэнду ці прадам памяшканне магазіна ў цэнтры Вілейкі па вул. 17 Верасня, 41. ІП Кайдо Г.П. УНП 690117476. Т. (8-01771) 55390.*

## НАЙМУ

• Кватэру ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 6655539.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• **ПРАКАТ БЕЛАГА ЛІМУЗІНА. КАДЗІЛАК. ЧОРНЫ БМВ У ПАДАРУНАК**. ІП Аладка А.І. УНП 690337519. Т. (8-029) 3483306.*

## ЦЫРУЛЬНІ

• **СТРЫЖКА І ДОГЛЯД ЗА ПОЎСЦЮ ДАМАШНІХ ЖЫВЁЛ** у ГЦ "Тройка", 4 паверх. Да канца месяца вельмі нізкія цэны! ІП Пружан С.М. УНП 690369213. Тэл. для запісу: Вэлком (8-044) 4707113.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• **ВІДЭАЗДЫМКА, МАНТАЖ**, прафесійная відэакамера Sony HDR AX-2000E. ІП Малько А.Г., УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ ПА РБ ВАГОЙ 1,5 ТОНЫ**. ІП Пагуда С.А. УНП 192407907. Т. МТС (8-029) 2501165.*

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АГАРОДЖЫ, ВАРОТЫ, БРАМКІ З ПРАФНАСЦІЛА. ТАННЫЯ ЦЭНЫ, ВЫДАТНАЯ ЯКАСЦЬ. ПРЫМАЕМ ЗАКАЗЫ НА ВЯСНУ- ЛЕТА-ВОСЕНЬ.** ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561,(8-044) 7353986.

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. Вадасцёкавыя сістэмы. Замер, кансультацыя, дастаўка. Іншыя аддзелачныя работы. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029)1022232.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **БУХГАЛТАРСКІЯ ПАСЛУГІ ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ. СТВАРЭННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙ, ВЯДЗЕННЕ, АДНАЎЛЕННЕ БУХГАЛТАРСКАГА ЎЛІКУ, УСЕ ПЫТАННІ ПА ЗДАЧЫ ПАДАТКОВЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ, ФСЗН, БЕЛДЗЯРЖСТРАХ**. ЧУП "Мегама" УНП 691887778, г.Маладзечна, ул. В.Гасцінец,143 (ГЦ "Тройка"), офіс 520. **Т. ВЭЛКОМ (8-029) 1298889, МТС (8-029) 7498889,** mail: megama@tut.by.*

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ЭФІР

# "У нас адключылі тэлебачанне! Дапамажыце"

**МЯДЗЕЛ. Амаль месяц прайшоў пасля адключэння чатырох аналагавых тэлеканалаў на Мядзельшчыне. Нечаканасцю для жыхароў гэта не стала, кажа начальнік Мядзельскага цэха ультракароткахвалевых радыёстанцый Міхаіл Бурак:**

– Пра адключэнне загадзя і рэгулярна апавяшчалі жыхароў. Яны рыхтаваліся да гэтага. А лічбавы перадатчык на частаце 44 тэлеканала працуе ў нас з 2012 года.

Таму шквалу званкоў пасля адключэння аналагавых тэлеканалаў не было.

– Чалавек з дзясятак пазваніла, не больш, – кажа спецыяліст. – Дзяжурны кансультуе, дзе можна набыць прыстаўку, якая трэба антэна, куды яе развярнуць. Было такое, што чалавек тэлефануе: "А як жа вы адключылі – у мяне ўсё ідзе". Аказалася, ён у будслаўскім рэгіёне прымаў аналагавыя тэлеканалы з іншага перадатчыка.

## Яшчэ працуюць два аналагавыя каналы

Чатыры тэлеканалы, што трансляваліся на дэцыметровых хвалях, адключылі 15 студзеня. Два аналагавыя каналы на метровых хвалях, "Беларусь 1" і "РТР-Беларусь", будуць вяшчаць у Мядзельскім раёне да сярэдзіны чэрвеня гэтага года.

## Нюансы "польскай" антэны

Часам людзі тэлефануюць, што лічбавае вяшчанне ўчора прымалася, а сёння раптам не ідзе. Ёсць нюансы, звязаныя з антэнай.

– Многія прымаюць сігнал на так званыя "польскія" антэны з узмацняльнікам. Час ад часу ён можа стварыць перашкоды для прыёму лічбавага тэлебачання, – тлумачыць Міхаіл Бурак. – То трэба паспрабаваць выключыць узмацняльнік.

## ZALA ідзе ў рост

У сувязі з адключэннем аналагавых тэлеканалаў больш увагі ў жыхароў стала выклікаць паслуга ZALA. Колькасць зваротаў па падключэнні пачала расці за некалькі тыдняў да 15 студзеня, расказала спецыяліст па продажах Мядзельскага вузла электрасувязі **Валянціна Малько.** Працягнуўся рост зваротаў і пасля адключэння. Былі такія тэлефанаванні: "У нас адключылі тэлебачанне! Што рабіць, дапамажыце".

У бліжэйшы час на Мядзельшчыне стане даступным эфірнае лічбавае тэлевяшчанне ZALA. Тады можна будзе падключыць 26 тэлеканалаў там, дзе раней наладзіць прагляд каналаў ад інтэрактыўнай ZALA не было тэхнічнай магчымасці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2015 год па культурах

Месяцавы каляндар згрупаваны па работах у садзе і агародзе, згодна з канкрэтнымі агракультурамі. Цалкам стасуецца з папярэднім календаром, апублікаваным у №№4-5 (сартаваны па датах). Улічаны квадры Месяца, праходжанне Месяцам знакаў задыяка, сатанінскія дні (падрабязна пра гэта мы пісалі ў №4).

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

| ВІДЫ РАБОТ ПА КУЛЬТУРАХ | ДНІ МЕСЯЦА |
|---|---|
| **Люты** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2-4, 17-19 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Баклажанаў (на падваконні і ў цяпліцы) | 14-16 |
| Суніц (рэмантантных) | 21-24 |
| Агуркоў, салаты, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зяляніну (падваконне, цяпліца) | 1, 7-9, 20-22, 27, 28 |
| Радыскі, морквы, пятрушкі (каранёвай) | 1, 20-24 |
| Перцу (падваконне, цяпліца) | 13-15 |
| Памідораў (на падваконні і ў цяпліцы) | 13-15 |
| **Уборка** | |
| Зяляніны | 6-8, 12-15 |
| Радыскі, морквы, пятрушкі (каранёвай) | 1, 20-22 |
| | |
| **Паліванне, падкормліванне** | 5-11, 20, 23, 24 |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 5, 6, 12-16, 21, 22, 25, 26 |
| Зімовае прышчэпліванне яблынь і груш | 21-28 |
| **Сакавік** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2-5, 16, 17, 20, 21, 29-30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Суніц (рэмантантных) | 13-15 |
| Агуркоў на расаду, салаты, кропу, шпінату, пятрушкі, сельдэрэю на зяляніну (на падваконні, у цяпліцы) | 1, 18, 19, 26-28 |
| Радыскі, морквы, пятрушкі | 1,7, 8-11, 14, 15, 18, 19 |
| Капусты на расаду | 22, 23 |
| Перцу | 26-28 |
| Памідораў на расаду | 26-28 |
| Баклажанаў | 26-28 |
| **Уборка** | |
| Зяляніны | 12-15, 20, 21 |
| Радыскі, пятрушкі (каранёвай) | 22-24, 27, 28 |
| | |
| **Паліванне, падкормліванне** | 18, 19 |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 2, 3, 5, 6, 12, 13, 24, 25, 31 |
| Зімовае прышчэпліванне яблынь і груш | 5, 9-11, 18, 19 |
| Абрэзка пладовых культур, нарыхтоўка чаранкоў для прышчэплівання | 5, 9-11, 16, 17, 22, 23, 29, 30 |
| Яравізацыя бульбы | 16-18, 28 |
| **Красавік** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 2, 4, 12, 13, 17, 18, 25-27 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў на расаду, салаты, шпінату, кропу, пятрушкі, сельдэрэю на зяляніну | 14-16, 19, 20, 23, 24 |
| Баклажанаў, патысонаў, кабачкоў, гарбузоў, кавуноў, дыняў, перцу | 23, 24, 30 |
| Бобу, гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы | 3, 21, 22, 23, 24, 30 |
| Радыскі, морквы, бручкі, рэпы, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў | 10, 11, 14-16 |
| Памідораў на расаду | 14-16, 23, 24 |
| Капусты на расаду і пад плёнку | 14-16, 19, 20, 23, 24 |
| Бульбы | 10, 11 |
| Сланечніку | 11-13, 15-17 |
| Цыбулі, часнаку | 14-16 |
| Малін, парэчак, агрэсту | 21, 22 |
| Суніц | 21, 22 |
| Яблынь, груш, сліў, вішань, чарэшань і інш. пладовых дрэў | 3, 30 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, што цвітуць | 21, 22, 30 |
| Хрызантэм | 3, 9-11, 30 |
| Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў | 3, 9-11, 30 |
| Гіяцынтаў | 3, 9-11, 30 |
| **Уборка** | |
| Агуркоў і зяляніны | 7-10, 13, 14, 16, 17 |
| Радыскі, пятрушкі (каранёвай) | 20-23, 27-30 |
| | |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 1, 8, 9, 12, 13, 17, 21, 22, 28, 29 |
| **Абрэзка ягадных культур** | 12, 13, 19, 20 |
| **Абрэзка пладовых дрэў** | 25-27 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 14-16 |
| Прышчэпліванне пладовых дрэў | 25-27 |
| Яравізацыя бульбы | 10, 11, 23, 24 |

| | |
|---|---|
| **Май** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 4, 10, 11, 14, 15, 18, 23, 24 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў на расаду і пад плёнку | 3, 20-22, 30, 31 |
| Памідораў пад плёнку | 3, 20-22, 30, 31 |
| Салаты, шпінату, кропу, пятрушкі і сельдэрэю на зяляніну | 12, 13, 30, 31 |
| Баклажанаў, патысонаў, кабачкоў, гарбузоў, кавуноў, дыняў, перцу | 3, 20-22, 30, 31 |
| Бобу, гароху, фасолі, спаржы, сачавіцы | 1, 2, 20-22 |
| Радыскі, морквы, бручкі, рэпы, рэдзькі, пятрушкі (каранёвай), пастарнаку, буракоў | 7-9, 12, 13, 16, 17 |
| Капусты | 3, 20-22 |
| Бульбы | 7-9, 16, 17, 20-22 |
| Сланечніку | 3-10, 16, 17 |
| Цыбулі, часнаку | 12, 13, 16, 17 |
| Малін, парэчак, агрэсту | 3, 4, 7-9, 12, 13, 30, 31 |
| Суніц | 16, 17, 19-21 |
| Яблынь, груш, сліў, вішань, чарэшань, інш. пладовых дрэў (да распускання пупышак) | 1, 2, 20-22, 28, 29 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, што цвітуць | 1, 2, 19, 20-22, 28, 29 |
| Хрызантэм | 1, 2, 25-29 |
| Нарцысаў, вяргінь, гладыёлусаў, півоняў | 1, 2, 25-29 |
| Гіяцынтаў | 1, 2, 25-29 |
| **Уборка** | |
| Агуркоў і зяляніны | 4-8, 14, 15 |
| Радыскі, морквы, пятрушкі | 20-22, 25, 29-31 |
| | |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 3, 4, 5, 6, 10, 11, 14, 15, 19, 23, 24, 30, 31 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 3, 4, 12, 13, 28, 29, 30-31 |
| Прышчэпліванне пладовых дрэў і кустоў | 3, 4, 7-9, 12, 13, 30, 31 |
| Яравізацыя бульбы | 3 |
| **Чэрвень** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 6, 7, 10, 11, 14-16 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў | 26-28 |
| Памідораў | 26-28 |
| Фасолі | 17, 18 |
| Салаты, шпінату, пятрушкі на зяляніну | 1, 29, 30 |
| Баклажанаў, кабачкоў, патысонаў, гарбузоў | 17, 18, 26-28 |
| Бручкі, рэдзькі, рэпы, буракоў, сельдэрэю, радыскі | 8, 9, 12, 13 |
| Капусты | 26-28 |
| Бульбы | 12, 13 |
| Цыбулі на зяляніну і перцу | 1, 8-9, 12-13, 29, 30 |
| **Уборка** | |
| Агуркоў і зяляніны | 1, 29, 30 |
| Ранніх бульбы і караняплодаў | 6, 7, 10, 11, 19, 20, 29, 30 |
| Суніц, парэчак, чарэшань, ранніх яблыкаў | 10-11, 14-15 |
| | |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 6, 7, 10, 11, 14, 15, 16, 19, 20, 26-28 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 3-5, 8, 9, 24, 25, 26-28 |
| **Ліпень** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2, 7, 8, 16-18, 19-20, 31 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў, памідораў, баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў | 24, 25, 26, 27 |
| Салаты, шпінату, пятрушкі на зяляніну | 24, 25, 26, 27 |
| Сельдэрэю, радыскі, цыбульных | 5, 6, 9-11, 24, 25, 26, 27 |
| Цыбулі на зяляніну і перцу | 9-11, 26, 27 |
| Капусты | 24, 25 |
| Радыскі, бручкі, рэпы | 9-11 |
| **Уборка** | |
| Ранняй капусты , агуркоў і зяляніны | 7, 8, 17, 18 |
| Ранніх бульбы і караняплодаў | 7, 8, 17, 18 |
| Суніц, парэчак, чарэшань, ранніх сліў і яблыкаў, вішань | 7, 8, 12, 13, 26, 27 |
| | |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 3, 4, 12, 13, 17, 18, 21-23 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 3-6, 16, 21-23, 24, 25 |
| Акуліроўка яблынь, груш і інш. пладовых дрэў | 28-30 |

| | |
|---|---|
| **Жнівень** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 4-5, 12-14 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў на расаду для цяпліц | 22-24 |
| Салаты, шпінату, пятрушкі на зяляніну | 22-24 |
| Суніц | 5-7, 22-24 |
| Радыскі, бручкі, рэпы | 15, 16, 19, 21 |
| **Уборка** | |
| Сярэдняспелай капусты | 4, 5 |
| Сярэдняспелых бульбы і караняплодаў | 1, 4, 5, 8, 9, 12, 13, 27, 28, 31 |
| Цыбулі і часнаку | 11, 16 |
| Агуркоў і памідораў | 6, 7, 8, 9, 12, 13, 22-24, 31 |
| Сліў, груш, яблыкаў, вішань і іншых пладоў і ягад | 4-7, 8, 9, 12, 13, 22-24, 31 |
| | |
| Акуліроўка пладовых дрэў | 12, 13, 17-19 |
| Абрэзка ягаднікаў | 1, 6, 7, 27, 28 |
| Нарыхтоўка сокаў з пладоў і ягад | 2, 3, 6, 7 |
| **Кансерваванне** | 2, 3, 6, 7, 10, 11, 17-19, 30 |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 1, 4, 5, 12, 13, 17-19, 27, 28, 31 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 2, 3, 17-19, 30 |
| **Верасень** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 4, 5, 9-12, 13, 28 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Суніц | 13, 29-30 |
| Часнаку (пад зіму) | 2, 3, 29, 30 |
| Пятрушкі і сельдэрэю на зяляніну | 13, 29-30 |
| Радыскі | 21, 22 |
| Пладовых і ягадных культур | 21, 22 |
| Руж, акацый і іншых дрэў і кустоў, што цвітуць | 21, 22 |
| **Уборка** | |
| Бульбы для працяглага захоўвання | 2, 3, 9, 10 |
| Бульбы для свежага спажывання | 1, 4, 5-8, 19, 20 |
| Буракоў, рэпы, рэдзькі і морквы | 1-3, 4, 5-8, 9, 10, 19, 20 |
| Сліў, груш, яблыкаў, агрэсту | 1, 19, 20 |
| Агуркоў і памідораў | 1-3, 4, 5, 19, 20 |
| | |
| Прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 1, 4, 5, 9-10, 16-18, 27 |
| **Паліванне, падкормліванне** | 16-18, 21, 22, 25, 26 |
| Нарыхтоўка сокаў, кансерваванне пладоў і ягад, квашанне капусты | 1, 6-8, 9-10, 16-18, 25, 26 |
| **Кастрычнік** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 6,7, 13, 21, 22, 27 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Пладовых дрэў і кустоў | 18-20 |
| Цыбулі і часнаку (пад зіму) | 28 |
| Морквы (пад зіму) | 28 |
| **Уборка** | |
| Бульбы для працяглага захоўвання | 16, 17 |
| Бульбы для свежага спажывання | 16 |
| Морквы і іншых караняплодаў | 16, 17 |
| Позніх яблыкаў | 16, 17 |
| | |
| Культывацыя, прапалка і апырскванне ўсіх культур супраць шкоднікаў і хвароб | 1-10, 14, 15, 21-24, 29-31 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 14, 15 |
| Нарыхтоўка сокаў, кансерваванне пладоў і ягад, квашанне капусты | 16, 17 |
| **Навядзенне парадку на дзялянцы** | 11, 12 |
| **Лістапад** | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 2-4, 10-13, 16, 17, 24, 30 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Насення яблынь, груш, сліў, вішань на сеянцы, нарыхтоўка чаранкоў на вясну | 14-15 |
| Цыбулі і часнаку (пад зіму) | 18-23, 27- 29 |
| Морквы (пад зіму) | 18-23, 27-29 |
| | |
| Культывацыя, перакопванне і знішчэнне шкоднікаў | 1-6, 25, 26 |
| **Уцяпленне буртоў і сховішчаў, навядзенне парадку на дзялянцы** | 7, 8 |
| Нарыхтоўка сокаў, кансерваванне пладоў і ягад, квашанне капусты | 10-13 |
| Абрэзка дрэў і кустоў | 9 |
| | |
| Дні, неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі любой культуры | 1, 10, 13, 14, 24, 26-28 |
| **СПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ** | |
| **Сяўба, пасадка** | |
| Агуркоў цяплічных сартоў на расаду (папярэдне праверыць на ўсходжасць) | 5-6, 7-8 |
| Радыскі ў цяпліцы і на падваконні | 15, 16 |
| **Уборка** | |
| Радыскі ў цяпліцах | 22-23 |
| | |
| Паліванне раслін | 5-8 |
| Прапалка і знішчэнне шкоднікаў | 2-4, 9, 29-31 |
| Нарыхтоўка чаранкоў для вясенняга прышчэплівання (калі няма моцных маразоў) | 25 |
| Зімовае прышчэпліванне яблынь, груш, сліў | 25, 29-31 |

● У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Як віхор і град папсавалі пасевы

## Пра гэта пісалі ў газету з Івянецкай гміны ў 1927 годзе

**МЯДЗЕЛ. Жыхар вёскі Будслаў на Мядзельшчыне Пётр Хацяновіч прынёс паказаць два выданні. Гэта газеты "Беларускае слова" і "Беларускі дзень" за 1927 год.**

Знайшлі іх у пасёлку, ці, як гаворацЬ мясцовыя, на станцыі Будслаў. Там гады чатыры таму разбіралі стары дом. З-пад бэлькі і вылецелі пажаўцелыя газеты. **Іван Лаўрыновіч** узяў выданні і захаваў іх.

У гэтым невялічкім доме раней жыў **Стэфан Бабарыка.** Ён нарадзіўся ў пачатку дваццатага стагоддзя. Памёр прыкладна ў 70-х гадах. Прыгадваюць, што **Стэфан Бабарыка** працаваў на чыгунцы абходчыкам.

– Мяркую, гэтыя газеты маглі належаць яму. Раз на чыгунцы працаваў, то, пэўна, адукацыю нейкую меў, чытаць умеў, – выказвае версію **Пётр Хацяновіч** (ён даводзіцца далёкім сваяком Стэфану).

**– А што мяркуюць з выданнямі рабіць?**

– Могуць іх і ў музей аддаць, калі зацікавяцца, – кажа Пётр. – Але захаваліся газеты не вельмі добра: дзе-нідзе мышы кавалкамі прагрызлі.

### Войтам гміна задаволеная

Перагорнем старонкі "Беларускага слова" за 20 жніўня 1927 года. Выходзіла газета раз на тыдзень.

У перадавіцы "Балючая справа" непакояцца за лёс беларускай пачатковай школы:

*"Ад момэнту, калі на чале Дзяржавы стаў Маршалак Пілсудзкі, кожны суменны чалавек павінен прызнаць, што ў многіх галінах грамадзкага жыцьця паступілі зьмены на лепшае і пэўныя палёгкі...*

*Аслабла і зьнікла хваля чужацкага асадніцтва на нашыя землі; спыніліся шыканы на нашыя сярэднія школы… атрыманы дазвол на вышэйшыя курсы з правамі ў Радашковічах для вашых беларускіх гімназіяльных настаўнікаў...*

*І толькі адно пытаньне, пытаньне найбольш балючае, найбольш для нас дарагое і патрэбнае, як паветра, – пытаньне аб беларускай пачатковай школе засталося не развязаным!"*

На апошняй, чацвертай, старонцы, якраз зьмяшчаецца аб'ява *"дырэкцыі Радашкоўскай 8-х клясовай коэдукацыйнай Беларускай Гімназіі гуманістычнага тыпу"* аб *"прыйме ў-ва усе класы"*. Уступныя экзамены павінны былі пачацца ад 29 жніўня да 8 верасня.

Ёсць яшчэ інфармацыі з нашага рэгіёна. У рубрыцы *"Жыцьцё провінцыі"* зьмяшчаецца карэспандэнцыя з в. Казарэзы (Івенецкае гміны):

*"Нашым войтам – п. Адамам Канажэўскім пакуль што гміна задаволена. У гміне парадак куды лепшы цяпер, як пры старым войце. Я ўжо пісаў ў Раду і ў "Прасьвету", каб у нашай школе, якая ёсьць у Казарэзах, быў бы вучыцель, які выкладаў-бы па польску і па беларуску і каб нашых дзяцей праваслаўных вучылі-б Закону Божаму, бо ў школу ходзяць, а маліцца ня ўмеюць. Каталіцкіх дзяцей вучыцелька вучыць рэлігіі, а праваслаўных адпраўляе да хаты. Сьвяшчэнік наш прыяжджаў некалькі разоў у тым годзе, а ў гэтым ні разу, бо ён ёсьць так сама нядобры чалавек і ўсё стогне, што яму трудна жыць.*

*3-га жніўня пранёсься вялікі віхар і град пабіў і папсаваў усе пасевы, якія былі недажатыя.*

*Янка Л."*

Расказваюць у газеце пра здарэнне ў Палачанскай гміне, дзе *"група на чале з буйным абшарнікам Пуцятай і ягоным служкай, гмінным пісарам распачала акцыю проціў першых беларускіх выбранцаў: войта Пятровіча і радных Сенько і Дзеніса"*.

Нямала ў газеце карэспандэнцый наконт выбрання войтаў – падобнай гэтай:

*"Першыя беларускія войты.*

*Івенецкая гміна.*

*Заступнікам войта выбраны гр. Точка – са сьпіску Нацыянальнага"*.

Шмат у газеце навін з усяго свету, і асабліва – з СССР. Падборка інфармацый адтуль мае красамоўную назву "У чырвоным пекле".

Не забывае рэдакцыя знаёміць чытачоў з навінкамі літаратуры: тут і расказы **Міхаіла Зошчанкі**, беларускія вершы, нарыс пра **Алеся Гаруна**.




Карыкатура з газеты "Беларускае слова".

**Навіны з СССР у выданні выходзілі ў падборцы пад назвай "У чырвоным пекле".**

### Заплаціць абяцалі пасля збору жыта

"Беларускі дзень" налічвае ўжо 12 старонак (праўда, удвая меншага фармату) і пазіцыяніруе сябе як "тыднёвая часопісь". Выданне не такое разнастайнае, як "Беларускае слова". Больш пісала пра сельскую гаспадарку. Тут можна даведацца "Як даглядаць карову" і "Як малаціць калісь і як малоцяць цяпер". Ды і па аб'яве бачна, на каго арыентавалася выданне:

*"Адміністрацыя "Беларуск. дня" паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпіснoй платы, абяцаючы прысылаць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прысылаць ў найбліжэйшым часе, бо тым, хто падпіскі ня прышле, часопісь "Беларусі Дзень" высылацца ня будзе"*.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Цытаты пададзеныя з правапісам арыгінала.**

**Даведка "РГ".**

**"Беларускае слова"** – заходнебеларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета, друкаваны орган Часовай беларускай рады, а затым Беларускай нацыянальнай рады. Фінансавалася польскай дзяржавай і выходзіла ад 3 лютага 1926 года да 9 сакавіка 1928 года замест газеты "Грамадзкі Голас".

**"Беларускі дзень"** – штотыднёвая грамадска-палітычная, сельскагаспадарчая і літаратурная газета. Выдавалася ў Вільні (7.3.1927 – 1928).

# Як не адбыліся патаемныя пахавіны ў Яршэвічах



У Яршэвічах каля Гарадка ледзь не пахавалі без згоды ўлад ахвяру знахараў. Пра гэта 11 лютага 1933 года пiша віленская газета "Słowo". Сёння гэта вёска знаходзіцца ў Валожынскім раёне. Разгорнем старую падшыўку.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**Газета піша, што двума днямі раней у царкву ў Яршэвічах Гарадоцкай гміны Маладзечанскага павета прывезлі цела мясцовай жыхаркі 30-гадовай Антаніны Раткевіч, якая памерла нібыта пасля доўгай хваробы. Труну ўстанавілі на катафалк і жанчыну павінны былі пахаваць у дзень выхаду газеты.**

Аднак царкоўныя служкі праявілі пільнасць. Яны заўважылі ненатуральны выгляд нябожчыцы. Усё цела набракла і пакрылася мноствам плямаў…

Узнікла падазрэнне, што Раткевіч не памерла натуральнай смерцю і што сям'я хоча схаваць гэты факт.

Царкоўныя служачыя адразу ж паведамілі пра свае падазрэнні ў паліцыю. Прыбылі паліцэйскія і забралі з царквы цела памерлай.

Ужо папярэдняе следства высветліла ўсю праўду. Аказалася, што Раткевіч памерла пасля недазволенай гінекалагічнай аперацыі, якую правяла знахарка Пелагея Зелянкова з вёскі Смалярня Гарадоцкай гміны. Улічваючы асаблівасці тагачаснай польскай традыцыі напісання прозвішча, можна дапусціць, што па-беларуску яно гучала ўсё ж як Зялёнка. Схіліў да аперацыі памерлай муж памерлай.

Прыходская Свята-Ушэсцеўская царква і сёння дзейнічае ў Яршэвічах. Тыповая мураванка-мураўёўка, якіх шмат на нашай зямлі з'явілася ў другой палове 19-га стагоддзя.

Населенага пункта Смалярня ні ў Валожынскім, ні ў Маладзечанскім раёне сёння не зафіксавана.

**Даведка "РГ".** Газета "Słowo" выдавалася ў Вільні ў 1922-1939 гадах. Выданне выходзіла штодня, акрамя паслясвяточных дзён. Звычайна аб'ём газеты складае 4 старонкі. У часы выбараў, святочныя нумары аб'ёмам маглі быць большым. Заснаваў газету выдавец і журналіст Станіслаў Мацкевіч.

● КАЛЯНДАР

**13 лютага.** 310 гадоў з дня нараджэння (1705) Францішкі Уршулі Радзівіл (г. Чартарыйск, Каралеўства Польскае, цяпер Валынская вобласць Украіны), пісьменніцы, першай у Вялікім Княстве Літоўскім жанчыны-драматурга, стваральніцы самабытнага тэатра ў нясвіжскай рэзідэнцыі Радзівілаў. Атрымала бліскучую хатнюю адукацыю, ведала тры мовы, арыентавалася ў літаратурных навінках, рана пачала пісаць вершы. Яе Нясвіжскі аматарскі тэатр, як з'ява, не мае аналагаў у тэатральнай культуры славянскіх народаў. Ён з'явіўся на мяжы шляхецка-сармацкай культуры 16 стагоддзя – першай паловы 18 і заходнееўрапейскай культуры ў той перыяд, калі ў межах Вялікага Княства Літоўскага адсутнічаў прафесійны тэатр, але яшчэ вельмі распаўсюджанай была школьная сцэна. Памерла Радзівіл у 1753 годзе.

***

**16 лютага.** 250 гадоў з дня нараджэння Нікадзіма Мусніцкага (1765 – 1805), паэта, драматурга, гісторыка, педагога.

***

**120 гадоў** з дня нараджэння (1895) Франца Кушаля (в. Пяршаі, цяпер Валожынскі раён), беларускага ваеннага і палітычнага дзеяча, публіцыста. Муж паэтэсы Наталлі Арсенневай. Шмат пра яго распавядаецца ў рамане Кастуся Акулы "Змагарныя дарогі".

***

**19 лютага.** 125 гадоў з дня нараджэння (1890) Казіміра Сваяка (сапр. Канстанцін Стаповіч; в. Барані, цяпер Астравецкі раён), паэта, рэлігійнага і грамадскага дзеяча.

***

**110 гадоў** з дня смерці (1905) Якуба Наркевіча-Ёдкі, прыродазнаўца, вынаходніка, медыка. Пахаваны ў сваім маёнтку Над-Нёман на Уздзеншчыне.

***

**100 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Бярозкі (сапр. Мацей Смарштчок, 1915 – 2008), беларускага паэта, заслужанага доктара медыцыны.

***

**80 гадоў** з дня нараджэння Генадзя Аўсяннікава (1935), акцёра, народнага артыста БССР і СССР.

***

**У 2015 годзе спаўняецца:**

**1200 гадоў** з дня нараджэння Мяфодзія (815 – 885), славянскага асветніка, аднаго са стваральнікаў славянскай азбукі, прававедніка хрысціянства.

***

**665 гадоў** з дня нараджэння Вітаўта (1350 – 1430), князя гарадзенскага, трокскага, вялікага князя Літоўскага.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● СВЯТЫ

# Колькі пар возьмуць шлюб у Дзень закаханых

**Сёлета Дзень закаханых прыпадае акурат на суботу. Ці значыць гэта, што колькасць шчаслівых пар, якія вырашылі звязаць свой лёс, возьмуць шлюб у сімвалічную дату?**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Маладзечанскага райвыканкама **Ала Івашкевіч** расказала "Рэгіянальнай газеце", што 14 лютага ў Маладзечне зарэгіструюць шлюб восем пар.

– Для лютага гэта бум. Зімой у нас у выхадныя рэгіструюць шлюб па дзве, максімум па чатыры пары ў дзень.

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскім ЗАГСе 14 лютага ажыятажу не будзе. Шлюбам тут пабяруцца дзве пары.

– Аднак, паколькі заяву можна падаваць за тры дні да рэгістрацыі шлюбу, то верагодна, што нехта яшчэ пажадае зарэгістраваць шлюб у гэты дзень, – распавяла начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Мядзельскага райвыканкама **Галіна Калмук.**

Як прызналася Галіна Калмук, і рэгістрацыю ў гэты дзень зробяць асаблівую:

– Па-першае, мы падрыхтавалі нашым маладым невялікія сувеніры на памяць, а па-другое, заручальныя пярсцёнкі маладым будуць падаваць сапраўдныя анёлкі.

Дарэчы, адной з пар, якія возьмуць шлюб у Мядзеле 14 лютага, па 18 гадоў.

**ВІЛЕЙКА.** – Дзень 14 лютага стане шчаслівым для сямі пар з Вілейкі, – кажа начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Вілейскага райвыканкама **Вольга Мароз.**

Ніякіх нечаканасцяў у гэты дзень у Вілейскім ЗАГСе не будзе.

**ВАЛОЖЫН.** А валожынскія пары абіраюць дату вяселля не па календары, а па гараскопе.

Начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Валожынскага райвыканкама **Тамара Яныш:**

– Насамрэч, былі такія выпадкі, калі нам даводзілася рэгістраваць шлюб сярод тыдня, таму што ў маладых супалі гараскопы і фазы месяца.

14 лютага ў Валожыне будуць рэгістравацца дзве пары. Будучы муж у адной з пар цяпер праходзіць тэрміновую вайсковую службу ў Валожыне, і нявеста прыедзе да яго з Оршы.

**СМАРГОНЬ.** Тут рэкордная колькасць пар выбрала 14 лютага днём, каб злучыць свае лёсы – 14.

– І гэта сапраўдны бум, – каментуе начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Смаргонскага райвыканкама **Ірына Казакова**. – Для параўнання: 7 лютага ў нашым ЗАГСе ажаніліся пяць пар, а 21 лютага будзе ўсяго адно вяселле.

У Смаргоні некаторыя пары, каб іх шлюб зарэгістравалі менавіта 14 лютага, заявы падавалі яшчэ ў жніўні.

**АШМЯНЫ.** У Ашмянскім ЗАГСе зацішша ўвесь люты. І толькі на 14 лютага падалі заявы тры пары.

– Дзень 14 лютага – выбар выключна маладых. Пісалі заяву толькі на гэты дзень. А вось пажаданняў да рэгістрацыі ні ў кога не было, таму ўсё пройдзе, як звычайна, урачыста-святочна, – кажа спецыяліст аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Ашмянскага райвыканкама **Генуэфа Барыловіч.**

**АСТРАВЕЦ.** Сем пар з Астраўца ажэняцца 14 лютага. Пасля гэтага ў ЗАГСе аж да красавіка не будзе ніводнай рэгістрацыі шлюбаў.

– Нічога дзіўнага, мы прытрымліваемся посту. А што тычыцца даты 14 лютага, то такая колькасць маладых бывае ў нас толькі летам. Таму гэты зімовы дзень унікальны, – гаворыць начальнік аддзела запісу актаў грамадзянскага стану Астравецкага райвыканкама **Аксана Дзятко.**

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Анастасіяй ЗАЛАТАРОВАЙ.

**Анастасія і Андрэй Залатаровы з Маладзечна ажаніліся год таму, 14 лютага 2014 года. Сёлета адзначаць гадавіну сямейнага жыцця будуць разам з любімай дачушкай Златкай.**

## Служба 104 информирует

**С понижением температуры окружающего воздуха владельцы индивидуальных жилых домов начали регулярно использовать отопительные газовые котлы и водонагреватели. Однако при этом не всегда выполняются элементарные требования правил безопасности. Каждый год на территории Республики Беларусь регистрируются случаи отравления людей угарным газом.**

При сжигании газового топлива при недостаточном поступлении кислорода воздуха (закрытая форточка, неисправная вентиляция) вследствие неполного сгорания, выделяется угарный газ, который при работе газового отопительного оборудования уходит в специально оборудованные дымовые каналы. При их неисправности продукты неполного сгорания могут попадать в помещение, где установлены газовые приборы. Вследствие чего может произойти отравление угарным газом. Угарный газ в отличие от бытового газа не имеет запаха и является сильнодействующим ядом.

28.11.2014 г. произошло отравление угарным газом трех человек по ул. 2-я Щорса, 3, кв.43 в г. Минске. Расследованием установлено, что в кухне установлены газовый водонагреватель и варочная панель. Дверка прочистного кармана на дымовом канале для отвода продуктов сгорания от газового водонагревателя не обеспечивала герметичности закрытия. В помещении кухни отсутствовала естественная вентиляция, так как в вентиляционный канал вмонтирована электровытяжка от варочной панели, отсутствовали подрезы дверей, в окнах установлены стеклопакеты. Принудительно отключен датчик тяги в газовом водонагревателе. При работе вытяжного вентилятора и проточного водонагревателя в помещении кухни и совмещенных помещениях создавалось разрежение и, как следствие в дымоходе возникала обратная тяга. А так как датчик тяги в водонагревателе был отключен, водонагреватель продолжал работать, и продукты сгорания поступали в помещение кухни, что и привело к отравлению.

Одной из основных причин неисправности дымовых каналов является засорение дымохода. Дымоходы загрязняются сажей, засыпаются мусором, иногда в них попадают птицы, разрушаются кирпичные кладки.

Напоминаем, что наличие в воздухе всего 1% угарного газа – смертельная концентрация для человека.

В продуктах сгорания содержится водяной пар, который конденсируется на холодных поверхностях дымохода. В зимний период это может привести к обмерзанию оголовков дымоходов и вентиляционных каналов, их закупорки и как следствие – проникновение угарного газа в помещение.

**Чтобы избежать несчастных случаев:**

- дымовые и вентиляционные каналы необходимо периодически проверять, а в зимний период регулярно осматривать оголовки указанных каналов для предотвращения их обмерзания;
- дымовые и вентиляционные каналы подлежат периодической проверке и прочистке: отопительного газового оборудования – независимо от материала, из которого они изготовлены, – перед отопительным сезоном,

проточных газовых водонагревателей – в зависимости от материала, из которого они изготовлены: кирпичные – не реже 1 раза в 3 месяца; асбоцементные, гончарные, стальные, а также выполненные из специальных блоков жаростойкого бетона – не реже 1 раза в год.

Владельцы жилых домов и квартир, где установлено вышеуказанное газоиспользующее оборудование, обязаны вызывать представителя специализированной организации для проверки состояния дымовых и вентиляционных каналов. Получить акт, подтверждающий их исправность. **Напоминаем:**

- запрещается включать газовые отопительные котлы и водонагреватели при неисправной автоматике безопасности и при ощущении запаха газа в помещении;
- газ в смеси с воздухом – взрывопожароопасен.
- перед розжигом котла или водонагревателя обязательно надо проверить наличие тяги в дымоходе (вентиляционном канале);
- помещение, в котором установлены газовые приборы, должно регулярно проветриваться;
- запрещено устанавливать в помещении топочной душевые кабины, ванны, санузлы;
- запрещается оставлять без присмотра включенную газовую плиту;
- запрещается сушить вещи над пламенем газовой горелки;
- газовое оборудование всегда содержите в чистоте и исправном состоянии.

***Уважаемые абоненты, не подвергайте свою жизнь опасности.***

**МПУ «Молодечномежрайгаз»**
**УНП 100008077**

## Ці сапраўды 14 лютага магічная і шчаслівая дата для заключэння шлюбу

З такім пытаннем мы звярнуліся да спецыяліста па міфалогіі, кандыдата філалагічных навук, старшага выкладчыка кафедры тэорыі літаратуры БДУ **Славяны Шамякінай**:

– У міфалогіі, сапраўды, існуе магія лічбаў. Але лічба 14 ніколі не ўваходзіла ў гэты пералік. Сакральнымі лічацца лічбы 1, 3, 7, 9, 12.

Што датычыцца Святога Валянціна, то ён чужы нашай культуры. Тым больш, што ў нашай міфалогіі ёсць свае святыя, якія заступаюцца за шлюб і закаханых. Гэта Пётр і Феўронія. Іх дзень святкуецца 8 ліпеня.

Па праваслаўным календары 14 лютага ўвогуле лічацца неспрыяльным днём для заключэння шлюбаў. Таму што гэты дзень ідзе перад Грамніцамі.

Аднак не ўсе маладыя вераць у прыкметы.

### Два святы адзначаем у адзін дзень

Сям'я **Анастасіі і Андрэя Залатаровых** 14 лютага адзначае адразу два святы: дзень шлюбу і Дзень закаханых.

– Мы справілі вяселле год таму. Выбралі нейкую суботу. Спыніліся на даце 15 лютага, – кажа Анастасія. – А потым да нас дайшло: у пятніцу ж Дзень Святога Валянціна!

Гадавіну сямейнага жыцця сям'я Залатаровых будзе адзначаць у гэту суботу.

– Я напяку печыва ў форме сэрцайкаў. Ужо падрыхтавала свечкі, сэрцайкі для ўпрыгожвання кватэры. Рамантыка. Ведаю, што муж рыхтуе для мяне нейкі сюрпрыз. А я яму падарунак ужо зрабіла – гэта наша дачушка Златка.

**Наталля ТУР.**

ВЕДАЙ НАШЫХ

# Мядзяльчанка ў топе Млына моды

## Дзякуючы фотасюжэтам з сукенкай з лісцяў і прычоскай з моху

**МЯДЗЕЛ. 16-гадовая Юля Пацяюн стала фіналісткай рэспубліканскага фестывалю-конкурсу “Млын моды – 2015” у намінацыі “Фота”. Гэта пры тым, што яна займаецца фатаграфаваннем лічаныя месяцы.**

Мядзяльчанка расказала карэспандэнту “РГ”, як нараджаюцца ідэі фотасесій. Прыгадала, як дзеля цікавага здымку ўгаварыла сяброўку залезці на ліхтар.

### Фатаграфаванне адцягвае ад інтэрнэту

Здымаць Юлі хацелася даўно. Але займаецца фатаграфаваннем яна менш за год – ад таго часу, як з'явілася магчымасць набыць добрую камеру.

– Гэта маё адзінае хобі. Вельмі рада, што ёсць тое, чым мне сапраўды падабаецца займацца і што можа адцягнуць мяне ад інтэрнэту.

Ёй больш даспадобы здымаць людзей: прыродай жа не пакіруеш, фатаграфуй, што ёсць. А з мадэллю можна ўвасобіць свае ідэі. Дзяўчына заўсёды спрабуе стварыць нешта незвычайнае:

– Таму што проста здымаць партрэты ўжо вельмі сумна і нецікава. Спрабую прыдумаць нешта сваё, чаго ў іншых яшчэ не было.

**– Не шкадуеце, што жывяце ў маленькім горадзе? Усё ж у вялікіх больш магчымасцяў для фатографа ажыццявіць свае ідэі, навучыцца чаму?**

– Не, мне гэта не перашкаджае. Наадварот, мне падабаецца мой горад: тут цудоўная прырода, шмат прыгожых месцаў, дзе можна пафатаграфаваць.

### Сукенку з лісцяў рабілі паўдня

Усе мадэлі – Юліны сяброўкі. Чаму? Адказ просты:

– Толькі яны пагаджаюцца ажыццяўляць мае дзіўныя ідэі. А ідэі могуць з'явіцца ў любы момант. Магу сядзець на ўроку, магу ўбачыць нейкую цікавую карціну ці фота ў часопісе.

Здымкі заўсёды праходзяць весела:

– Неяк зусім спантанна захацела пафатаграфаваць, паклікала сяброўку. Мы доўга шпацыравалі па горадзе і думалі, дзе можна яе зняць. І тут убачыла звычайны ліхтар. Пасля доўгіх угавораў сяброўцы давялося залезці на ліхтар.

**Падчас фотасесіі мы не засталіся без увагі людзей. Хтосьці смяяўся, хтосьці здымаў на тэлефон. Аднак здымкі атрымаліся незвычайныя і прыгожыя.**

Сваіх мадэляў вучаніца гімназіі-інтэрната фатаграфуе не толькі і не столькі на фоне мядзельскіх азёр. Робіць фотасесіі ў закінутых будынках і на фоне вясковых пейзажаў. Можа ўпрыгожыць прычоску сяброўкі мохам, вывесці мадэляў у прыгожых сукенках на студзенскі лёд і ў кастрычніцкі лес. Якраз самая складаная фотасесія і была, калі здымалі дзяўчыну ў сукенцы з лісцяў.

– Многія пыталіся ў мяне: сапраўдная гэта сукенка або зробленая ў фоташопе? Сапраўдная! – даводзіць Юля. – Мы яе рабілі з самай раніцы і скончылі ў абед. Увесь час дзяўчына стаяла толькі ў гэтай сукенцы. Мы сагравалі яе, як маглі, бо на дварэ было не лета.

### Самая маладая з фіналістак

Вынікі фотасесій Юля падала на рэспубліканскі фестываль-конкурс моды і фота “Млын моды 2015”. Стала адным з дзесяці фіналістаў у намінацыі “Фота” – прытым, самым маладым. Сярод фіналістаў яна – адзіная школьніца.

– У конкурсе прапанавала паўдзельнічаць мая настаўніца. І тое, што трапіла ў фінал, многае значыць для мяне. Таму што мала дзе ўдзельнічаю і, шчыра кажучы, не вельмі веру ў свае здольнасці.

Конкурс працягваецца. Фіналісты атрымалі заданне ад журы: ім трэба стварыць за тры месяцы фотасюжэты на тэму “У аб'ектыве Перамогі”.

Ідэя праекта ў Юлі ўжо ёсць. Зараз прадумвае яго рэалізацыю.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Юлі ПАЦЯЮН

На стварэнне гэтай сукенкі пайшло паўдня. Больш фота на сайце Rh.by

ФУТЗАЛ

# Чэмпіянат свету пройдзе ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечна прыме два матчы XI Чэмпіянату свету па футзале, які пройдзе ў Беларусі ў красавіку. У Маладзечне згуляюць каманды з Бразіліі, Аўстраліі, Марока і Бельгіі.**

Матчы пройдуць у спартыўна-забаўляльным цэнтры 18 і 19 красавіка. Сам жа чэмпіянат краіна будзе прымаць ад 17 да 25 красавіка.

**18 красавіка ў 16:00 пачнецца гульня паміж камандамі групы B – Бельгіяй і Марока.**
**19 красавіка ў 16:00 пройдзе сустрэча камандаў групы A. На маладзечанскую пляцоўку выйдуць зборныя Бразіліі і Аўстраліі.**

Зборная Беларусі згуляе ў групе A. Сапернікамі Беларусі ў падгрупе A стануць зборныя Уругвая, Бразіліі і Аўстраліі.

18 красавіка перад сустрэчай Бельгія-Марока адбудзецца афіцыйнае адкрыццё Чэмпіянату свету ў нашым горадзе. Цяпер рыхтуецца культурная праграма адкрыцця.

Пытанне, колькі будуць каштаваць білеты на матчы ў Маладзечне, пакуль не вырашанае. У Мінску яны сфарміраваны – у сталіцы цэны на білеты будуць ад 60 тысяч да 110 тысяч рублёў. Сёння сайт ticketpro прапаноўвае набыць іх на матчы, якія пройдуць у Мінску і Пінску.




Фота з сайта futsalbelarus.by.

Вожык-талісман Чэмпіянату свету-2015 па футзале ў Беларусі.

### Што такое футзал?

Футзалам называюць два розныя камандныя віды спорту, у якія іграюць мячом: міні-футбол або футзал (ФІФА) – від спорту, спаборніцтвы па якім праводзяцца пад эгідай ФІФА, ці футбол у залах, або футзал (AMF) – від спорту, спаборніцтвы па якім праводзяцца пад эгідай AMF.

Чэмпіянат-2015 пройдзе пад эгідай AMF.

Гэты від спорту гістарычна называўся футзал і быў створаны раней міні-футбола ФІФА, пасля афіцыйна перайменаванага у футзал. Першыя правілы да гульні ў футзал былі сфармуляваныя ў 1930 годзе ва Уругваі.

Беларускія каманды пачалі гуляць у футзал з 1992 года.

Усяго праведзена адзінаццаць чэмпіянатаў і розыгрышаў Кубка Беларусі па футзале.

Першым чэмпіёнам краіны стала каманда "Белкард" (Гродна). Ад 1999 года праводзяцца адкрытыя чэмпіянаты Рэспублікі Беларусь сярод жаночых камандаў.

Зборная каманда Беларусі ўдзельнічала ў цэлым шэрагу міжнародных турніраў, у тым ліку ў чэмпіянаце свету 1994 года ў Аргенціне (11 месца з 24), чэмпіянаце Еўропы – 95 (7 месца).

**Беларусь уваходзіць у пяцёрку мацнейшых камандаў свету.**

У 1997 годзе нацыянальная зборная каманда на VI чэмпіянаце свету ў Мексіцы заняла сёмае месца з 20-ці. На VII чэмпіянаце свету ў Балівіі (2000 год) беларусы занялі 8 месца (удзельнічала 16 камандаў). На чэмпіянаце Еўропы 1998 года, які праходзіў у Славакіі, зборная Рэспублікі Беларусь заняла 4-е месца.

– У лістападзе 2004 года на чарговым чэмпіянаце Еўропы зборная каманда Рэспублікі Беларусь заваявала залатыя медалі. Чэмпіянат праходзіў у Баранавічах, – піша сайт беларускай федэрацыі футзала: **futsalbelarus.by.**

**Наталля ТУР.**



Фота з сайта vialejka.info.

Віктар Сяліцкі пасля памятнага матча з камандай з Клецка.

ФУТБОЛ

## Бамбардзір "Віліі" раіць моладзі ісці на стадыён

**ВІЛЕЙКА. Лепшым бамбардзірам вілейскай "Віліі" ў леташнім сезоне чэмпіянату вобласці стаў Віктар Сяліцкі. Сёння 25-гадовы віляйчанін расказа, як зацікавіўся футболам. Раскрые, на якіх людзях трымаецца вілейскі футбол.**

Агучыць, чаму ў "Віліі" гуляе шмат ветэранаў.

Футболам Віктар займаецца год з дзесяці. Зацікавіў яго брат Сяргей. За ім і цягнуўся. Разам гулялі, хадзілі на трэніроўкі ў секцыю.

– Гэта цяпер няма такога, каб дзеці на вуліцы гулялі – у інтэрнэце ўсе сядзяць, – шкадуе Віктар.

### Запомніўся матч з хет-трыкам

Капітан "Віліі" **Алег Гулевіч** сказаў пра Віктара, што гэта футбаліст, які можа на ўсіх пазіцыях згуляць. Але збольшага ён гуляе нападзе. Пачалося гэта яшчэ з дзяцінства:

– Неяк з дзецьмі ездзілі на рэспубліканскія спаборніцтвы "Скураны мяч". Паставілі гуляць нападзе – атрымалася. Так і пайшло.

**– Як у дарослы футбол прыйшлі?**

– Гулялі адной камандай. Прапанавалі на вобласці пагуляць. Мне тады год 18 было. І з таго часу за "Вілію" гуляю – з перапынкам на службу ў армію.

Найбольш сярод матчаў за "Вілію" Віктару запомнілася гульня з камандай з Клецка.

– Гэта гады тры таму было. Прайгравалі 0:1, а выйгралі 3:1. Запомніўся матч тым, што валявую перамогу атрымалі. Ды і першы свой хет-трык зрабіў. Здаецца, ён для мяне адзіным у чэмпіянаце вобласці і застаўся.

### "Гэта лепш, чым дома сядзець"

Працуе Віктар будаўніком. Праца – фізічная. Вядома, стамляецца. Але ж сіл і часу на трэніроўкі і гульні не шкадуе:

– Я ж для задавальнення ў футбол гуляю. Выхадныя вольныя – чаму б не пабегаць. А вечарам калі і патрэніравацца можна. Пакуль здароўе дазваляе, гэта лепш, чым дома сядзець. Усё ж карысна: вядзеш актыўны лад жыцця.

Спытаў у Віктара, як ён ацэньвае стан вілейскага футбола.

– Каб не намаганні некаторых людзей, яго б зусім не было. Гэта старшыня раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**, наш капітан **Алег Гулевіч** і іншыя ветэраны. А так усё на энтузіязме трымаецца. І гэтак будзе цягнуцца, пакуль не з'явіцца зацікаўленасць у горада.

**– Як вы ацэніце перспектывы футбола ў Вілейцы?**

– Як слабаватыя. Шкада, што моладзі няма. У "Вілію" з моладзі адзін чалавек прыходзіць у сезон. А так збольшага ветэраны гуляюць. У адным з матчаў летась на дваіх нападаючых было 84 гады! Няма зацікаўленасці у моладзі. Можа, хочуць, каб заплацілі за гульню, на харчаванне грошы выдзелілі. А мы ж на энтузіязме гуляем.

**– Усё ж так цяжкавата: выдаткоўваць свой час, сілы і нават маленькай кампенсацыі не мець?**

– Я ніколі за грашыма не гнаўся. Мне падабаецца – і ўсё.

### Сын сам вырашыць, ці захоча стаць футбалістам

У пачатку года ў сям'і Сяліцкіх адбылося папаўненне: нарадзіўся першынец, сын Данііл.

**– Не думалі яшчэ, ці будзеце яго да футбола далучаць, як падрасце?**

– Паспрабую. А захоча ці не – хай сам вырашае.

**– Юнакам, якія бавяць час дома ля камп'ютара, што можаце сказаць?**

– Што тыя камп'ютары! Выходзьце на вуліцу, на стадыён. Гэта больш карысна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## Смаргонцы зноў упусцілі перамогу

**СМАРГОНЬ. АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ.** Чарговую гульню ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе 8 лютага правяла смаргонская "Вілія". Дома сустракалася з лідарам чэмпіянату – слонімскім "Фарсажам". Матч закончыўся баявой нічыёй 5:5.

Прычым, смаргонцы выйгравалі пасля першага тайма 4:1, вялі ў другім 5:2.

– Зноў умудрыліся ўпусціць перамогу, – расчараваны гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – Трэцюю гульню запар у нас такія правалы. Верагодна, адбіваецца адсутнасць трэніровак. У сувязі з рамонтам залы трэніровак у нас не было ўжо дзесяці паўтара месяца.

У першай лізе чэмпіянату футбалісты "Меліяратара" з Астраўца 8 лютага дома згулялі ўнічыю з камандай з Навагрудка 8:8. Каманда з Ашмянаў мінімальна прайграла гасцям, камандзе з Мастоў, 4:5.

## У прызёры не трапілі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Барысаве 7-8 лютага прайшлі фінальныя гульні Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе. Толькі прадстаўнікі Маладзечанскага раёна там гулялі з камандаў нашага рэгіёна.

Занялі яны апошняе, пятае, месца. Аднак толькі маладзечанцы здолелі адняць ачкі ў пераможцы: з камандай Пухавіцкага раёна згулялі ўнічыю 2:2

## Лепшыя лыжнікі працуюць у "Вілейкарайгазе"

**ВІЛЕЙКА.** Ва ўрочышчы "Дубаўка" 30 студзеня прайшлі спаборніцтвы па лыжных гонках у рамках круглагадовай спартакіяды сярод працоўных калектываў раёна.

Удзельнічалі 11 камандаў, паведаміла намеснік дырэктара РФАЦ "Сатурн" **Кацярына Мацвеева.**

У камандзе былі два мужчыны (яны беглі дыстанцыю па два кіламетры) і адна жанчына. Прадстаўніцы цудоўнай паловы беглі кіламетр.

Перамаглі прадстаўнікі "Вілейкарайгазу". Другое і трэцяе месца падзялілі каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама і аддзялення "Энергазбыту".

## "Мядзел" і "Зубраня" зноў грамяць сапернікаў

**МЯДЗЕЛ.** Два разгромы зафіксаваныя ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе 28 студзеня. Прадстаўнікі цэнтра "Зубраня" разгромілі 13:2 каманду аддзелаў райвыканкама.

Другое запар буйное паражэнне атрымалі супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Яны прайгралі камандзе індывідуальных прадпрымальнікаў "Мядзел" з лікам 3:11.

Упартай выдалася гульня паміж камандамі Крывіцкага сельсавета і райваенкамата 31 студзеня:

– Яўнага фаварыта не было. Гульцы стварылі шмат момантаў, а закончылася гульня ўнічыю 4:4, – расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак.**

У гэты ж дзень "Юніёр" саступіў "Лідару" 1:5.

Прадстаўнікі Крывіцкага сельсавета 4 лютага саступілі супрацоўнікам райаддзела па надзвычайных сітуацыях 1:5. Чарговую буйную перамогу атрымалі футбалісты цэнтра "Зубраня". На гэты раз – над "Юніёрам" з лікам 12:3.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПЕРАМОГІ

# Журналістка "РГ" Зоя Хруцкая стала пераможцай прэміі "Грамадзянская супольнасць у фокусе рэгіянальных СМІ"

Міжнародны кансорцыум "ЕўраБеларусь" ініцыяваў прэмію, якой ўзнагароджваюцца лепшыя журналісцкія матэрыялы, апублікаваныя ў рэгіянальных інтэрнэт-СМІ, прысвечаныя падзеям і ініцыятывам грамадзянскай супольнасці.

У намінацыі "Падзея" лепшым прызнаны матэрыял Зоі Хруцкай "Што гаварылі на грамадскім абмеркаванні: чаму людзі супраць свінакомплексаў".

Дэлегацыя "ЕўраБеларусі" наведала рэдакцыю 6 лютага, каб ўганараваць Зою Хруцкую.

Старшыня Рады кансорцыуму **Уладзімір Мацкевіч**, уручаючы дыплом пераможцы, падкрэсліў, што журы абрала артыкул Зоі Хруцкай не толькі таму, што тэма, раскрытая ёй, надзённая і хвалюючая, а і таму, што падыход журналісткі "РГ" да праблемы асэнсаваны і глыбокі.

Пра неабходнасць прэміі Уладзімір Мацкевіч сказаў так:

– Што адбываецца за МКАДам, вельмі часта знікае з поля гледжання нацыянальнай прэсы. У выніку важная частка жыцця рэгіёнаў застаецца замкнёным у вузкіх колах, пазбаўляючы добрыя і важныя ініцыятывы магчымасцяў пашырэння.

У інтэрв'ю Службе інфармацыі "ЕўраБеларусь" Зоя Хруцкая адзначыла:

– Мае высновы ад пяцігадовай працы ў газеце: калі цябе непакоіць праблема, то, хутчэй за ўсё, непакоіць яна і яшчэ некага. І калі вы аб'яднаецеся, то можаце нешта змяніць. Мы гэта бачым на практыцы. І хацелася б, каб людзі актыўней карысталіся сваім правам нешта змяняць у сваім жыцці. Як у гэтай сітуацыі са свінакомплексамі, у якой менавіта грамадзянская супольнасць адстаяла сваё права на добрую экалогію.

У дзвюх іншых намінацыях прэміі перамаглі артыкулы журналістаў баранавіцкага партала "Intex-press" **Алеся Гізуна** і **Арцёма Гарбацэвіча**.

**Наталля ТУР.**



Фота eurobelarus.info.

**Загадчыца аддзела інфармацыі "Рэгіянальнай газеты" журналістка Зоя Хруцкая.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", **3D** (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 лютага – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**", 3D (Расія, 2014, да 12 год )
14 лютага – у 13:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Францыя, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14 лютага – у 15:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны "**Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17 лютага – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Ёлкі махнатыя**", (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
15 лютага – у 14:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, крымінал, драма "**Рабаванне па-амерыканску**", (ЗША, Расія, 2014, з 16 год)
18 лютага – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, фантастыка "**Невідзімкі**", (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14 лютага – у 17:30
19 лютага – у 20:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Узыходжанне Юпітэр**", 3D (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 лютага – у 17:00
15 лютага – у 16:30
16, 18 лютага – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, крымінал, камедыя "**Kingsman: Сакрэтная служба**" (Вялікабрытанія, 2014, з 16 год)
13 лютага – у 22:00 (50 000 рублёў)
14 лютага – у 19:30
15, 17 лютага – у 19:00 (45 000 рублёў)

Меладрама, драма "**Пяцьдзясят адценняў шэрага**" (ЗША, 2014, з 18 год)
13 лютага – у 19:30 (45 000 рублёў)
14, 19 лютага – у 22:00 (50 000 рублёў)
15, 17, 18 лютага – у 21:30
16 лютага – у 21:00 (45 000 рублёў)

Прэм'ера! Анімацыя "**Губка Боб**" 3D (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
19 лютага – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Фэнтэзі "**Пчолка Мая**" (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
13 лютага – у 17:30
14, 15 лютага – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Прыгоды маленькіх італьянцаў**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
14, 15 лютага – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Моладзевыя вострасюжэтныя прыгоды "**Схватка**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
14, 18 лютага – у 18:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Пабудзь у маёй шкуры**" (Вялікабрытанія, 2013, з 16 год)
13 лютага – у 19:00
16, 18 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Жахі "**Сіневір**" (ЗША, Украіна, 2013, з 16 год)
15, 19 лютага – в 21:00
17 лютага – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Вось дык сяброўка**" (Італія, 2014, да 12 год)
13 лютага – у 21:30
14, 17 лютага – у 21:00
15 лютага – у 18:30
19 лютага – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

ГАРАСКОП

**(13-19 ЛЮТАГА)**

**19 лютага** ўступіць у свае правы год Сіняй Драўлянай Казы.

**Авен.** З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што пераверне ўвесь ваш уклад жыцця. І не звяртайце ўвагу на крызіс, бо і ў гэты перыяд жыццё працягваецца.

**Цялец.** Верце ў сваю шчаслівую зорку, смела крочце наперад, усе вашы планы з бляскам ажыццявяцца.

**Блізняты.** Не грэбуйце правіламі здаровага ладу жыцця. Беражыце страўнікава-кішачны тракт і печань. Адмоўцеся ад спажывання алкаголю. Знайдзіце яму замену – цікавае хобі, напрыклад.

**Рак.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі.

**Леў.** Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца.

**Дзева.** Вас чакаюць перамены, ды вы іх самі цягнеце ў сваё жыццё! Усе важныя падзеі афармляйце юрыдычна, каб потым не ўзнікала ніякіх праблем.

**Шалі.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова збудзецца.

**Скарпіён.** Асабістыя адносіны не заўсёды складваюцца так, як хацелася б. З-за гэтага вы адчуваеце раздражненне. Але перш чым злавацца, пагаварыце з блізкім чалавекам: кампрамісы абавязкова знойдуцца.

**Стралец.** Энергія заб'е ключом. Вы ў стане вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за доўгія гады, і запусціць яшчэ парутройку новых глабальных праектаў, калі паставіце перад сабой такую мэту.

**Казярог.** Да ўсяго ў жыцці трэба адносіцца спакойна, нават калі ўзнікаюць цяжкасці. Сітуацыя заўсёды мяняецца да лепшага, трэба толькі дачакацца гэтага моманту.

**Вадалей.** Вам прыйдзецца нямала папрацаваць, але ў вас будзе нямала важкіх падстаў ганарыцца сабой. Аўтарытэт узрастае, з вашым меркаваннем лічацца мудрыя, з досведам, ды і проста важныя людзі.

**Рыбы.** Калі ад вас запатрабуецца прыняцце важнага рашэння, то не бойцеся рызыкаваць, вынік будзе на вашу карысць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
13 лютага, пятніца, – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
19 лютага, чацвер, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч...**" (музычна-паэтычны спектакль)
20 лютага, пятніца, – у 15:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).

E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | | | | 7 | | | 1 |
| 2 | | 5 | | | 6 | | | |
| | | | | 1 | | | | |
| 9 | 2 | | | 8 | | 3 | | |
| 8 | | | | 9 | | | | 4 |
| | | 1 | | 3 | | | 8 | 5 |
| | | | | 2 | | | | |
| | | | 8 | | | 4 | | 7 |
| 6 | | | 1 | | | | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Схватка**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13 лютага – у 18:00
18 лютага – у 17:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Жахі "**Сіневір**" (ЗША, Украіна з 16 год)
13 лютага – у 20:30
14, 15 лютага – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Любімчыкі ў пошуках вясёлкі**" (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
14 лютага – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 лютага – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Цімур і каманда**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
15 лютага – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Драма "**Трэба жыць**" (Беларусь, з 16 год)
15, 19 лютага – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Крымінал "**Ровер**" (Аўстралія, з 16 год)
18 лютага – у 19:30
19 лютага – у 19:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, баявік "**Узыходжанне Юпітэр**", 3D (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13, 14, 15 лютага – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Меладрама "**Пяцьдзесят адценняў шэрага**", 2D (ЗША, з 18 год)
13, 14, 15 лютага – у 20:30
18 лютага – у 20:00
19 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", 3D (Расія, без узроставых абмежаванняў)
14 лютага – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі "**Невідзімкі**", 2D (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
14 лютага – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў
18 лютага – у 20:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" 2D (Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
15 лютага – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Ёлкі махнатыя**", 2D (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога).
15 лютага – у 16:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Губка Боб**" 3D (ЗША, Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 лютага – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Снежная каралева**" (чароўная казка), *Г.Х.Андэрсен*
15 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на Rh.by

Рэгіянальная газета. Rh.by

# НАДВОР'Е

**14 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / -1 | | -3 / -2 | | -3 / 0 | | -2 / 0 | |
| | 748 | ↑ 3 | 745 | ↖ 7 | 743 | ↖ 8 | 735 | ↑ 9 |
| Вільня | -1 / 0 | | -1 / 0 | | -1 / +2 | | -1 / +2 | |
| | 756 | ↑ 3 | 752 | ↑ 6 | 750 | ↑ 7 | 744 | ↑ 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.34
Захад 18.18
Даўжыня дня 9.44

Усход 4.38
Захад 13.15
Квадра 4




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Нарач**

- Мінімальная тэмпература -21,4 °C у 2011 годзе
- Максімальная тэмпература +2,1 °C у 2001 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 10 мм у 2004 годзе

Назіранні за 14 год. Паводле meteoinfo.by

# ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Каго вы лічыце дармаедам?



**Ірына Мароз, у дэкрэтным адпачынку:**

– Гэта людзі, якія не працуюць. Аднак гэта палка на два канцы – закон увялі, але працоўных месцаў няма. Людзі стаяць на чарзе, каб атрымаць працу, ім яшчэ і дапамогу па беспрацоўі выплачваюць. Бюджэт дзяржавы ад гэтага церпіць вялікія страты.



**Іван Шчабярака, навучэнец:**

– Гэта людзі, якія сядзяць на шыі ў сваякоў, нідзе не працуюць. Дзяржава павінна дапамагчы ім адшукаць працу. Вядома, не ўсе атрымаюць тую, якая ім будзе па душы.



**Аляксандр Дыско, навучэнец:**

– Гэта людзі, якія нідзе не працуюць. Канешне, цяпер стараюцца працаўладкаваць беспрацоўных, аднак не ўсе змогуць атрымаць годную працу.



**Аксана Мікша, у дэкрэтным адпачынку:**

– Я не магу дакладна сказаць, хто такі дармаед. Варта, каб дзяржава дакладна вызначыла, хто ім з'яўляецца. Калі, напрыклад, жанчына пасля дэкрэтнага адпачынку не захоча аддаваць сваё дзіця ў садок, а будзе выхоўваць яго дома, то будзе няправільна, калі і яе палічаць дармедкай.



**Наталля Трапяшчонак, у дэкрэтным адпачынку:**

– Дармаед – чалавек, які жыве за кошт другога. І гэта з'яўляецца іх свядомым рашэннем. Напэўна, я пагаджуся з тым, што ўвялі штрафы за дармаедства. Аднак і ў гэтым выпадку шмат нюансаў. Каб не дапусціць дармаедства, трэба займацца выхаваннем дзіцяці з маленства ў сям'і.



**Святлана Бабкіна, вахцёр:**

– Дармаед – чалавек, які нідзе не працуе. Абавязкова трэба працаваць, хаця б дзеля таго, каб пракарміць сябе. Я лічу добрым, што з'явіўся закон аб дармаедах.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Ці папулярныя сярод беларусаў татуіроўкі з нацыянальнымі матывамі? На гэтае і іншыя пытанні адкажа майстар Таццяна Яблонская ў наступным нумары "РГ".**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 7 (1033) 13.02.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 192. Падпісана ў друк у 9.00 12.02.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.